НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 42 (735) 16 лістапада 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Сказ пра маю барбу

У Беларусі не зводзяцца Ведзьмакі-Лысагорскія. У Рэдакцыю «Нашай Нівы» даслалі новы ананімны сатырычны шэдэўр. Старонка 9.

..На зло і завісць апанентам
В такі-та дзень, такі-та год
Мяне ізбралі прэзідэнтам,
Я за сабой павёў народ...

# Ці тых гатовы расстраляць?

**Прысуд па справе мінскага тэракта** вынесуць 30 лістапада. **Старонка 10.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## Ільготы адменяць, сістэму балаў зменяць

Новае пры **паступленні ў ВНУ**.

Мінадукацыі прапануе адмовіцца ад амаль усіх ільготаў для абітурыентаў, балы па ЦТ па профільных прадметах тэхнічных спецыяльнасцяў памнажаць на два, а на завочнае браць толькі пры наяўнасці працы. Гэтыя правілы могуць быць уведзеныя ўжо налета.

Паводле новых правілаў паступлення, усе льготы па вызваленні ад платы за навучанне, прадастаўленне месца ў студэнцкім інтэрнаце ці вылучэнні льготнага крэдыту будуць размяркоўвацца ўжо пасля залічэння.

Выключэннямі стануць толькі пераможцы розных алімпіядаў — рэспубліканскіх ці ўніверсітэцкіх — альбо спартовых спаборніцтваў.

Скасоўваецца адна з улюбёных ініцыятываў Лукашэнкі ў сферы адукацыі: асобны конкурс для вясковых абітурыентаў. Магчыма, будуць рабіцца толькі зніжкі па аплаце.

Браць на завочныя аддзяленні будуць толькі абітурыентаў, якія ўжо недзе працуюць. Такая норма існавала калісьці, а цяпер яна аднаўляецца.

Міністэрства адукацыі марыць давесці колькасць студэнтаў завочнага да 30–40 тысячаў (цяпер кожны другі першакурснік — завочнік). Найперш «пад нож» пойдуць месцы на эканамічных і юрыдычных спецыяльнасцях.

**Працяг на старонцы 2.**

**Фотафакт**



**Павел Латушка зрабіў фурор на закрыцці «Лістапада»**

На закрыцці кінафэсту «Лістапад» міністр культуры Павел Латушка з’явіўся з новай спадарожніцай. Перад гэтым ён прызнаваўся, што знайшоў сёлета сваё каханне. З першай жонкай самы малады міністр краіны разведзены. Ён гадаваў сваю дачку, якая цяпер ужо дарослая.

# Ільготы адменяць, сістэму балаў зменяць

Працяг са старонкі 1.

Пры гэтым хлопцам прыйдзецца яшчэ і падрыхтавацца да сустрэчы з ваенкамам — завочнікам ужо другі год запар адтэрміноўку не даюць.

На некаторыя тэхнічныя спецыяльнасці будуць прымаць і з 600 баламі. Адбудзецца гэта з-за памнажэння балаў абітурыентаў па профільных тэстах на два. Гэта значыць, сума балаў па школьным атэстаце і вынікаў трох сэртыфікатаў ЦТ можа дасягнуць 600, а не 400 балаў, як ёсць цяпер.

Новая ініцыятыва прывядзе да дэвальвацыі значнасці моўных тэстаў (расейскай ці беларускай), бо кожны бал па профільных фізыцы ці матэматыцы стане роўным двум балам па мове.

Назвы спецыяльнасцяў, на якіх будзе дзейнічаць памнажэнне балаў, яшчэ не абвешчаныя. Аднак вядома, што гуманітарныя накірункі ў іх лік дакладна не трапяць.

З’явіцца таксама мінімальны бал, без атрымання якога ў абітурыента проста не прымуць дакументы. Вырашаць, які сёлета прахадны бал, будуць ужо пасля сканчэння ЦТ.

Цяпер праект правілаў накіраваны на ўзгадненне з Адміністрацыяй прэзідэнта.

**Generation.by**

# Лукашэнка робіць выгляд, што цэны раслі без яго згоды

«Усё, **разбой кончыўся**», — заявіў кіраўнік краіны.

«Стратэгія такая, што гэтае шалёнае цэнаўтварэнне да снежня трэба спыніць», — заявіў ён 15 лістапада ў Барысаве.

Паводле слоў Лукашэнкі, праблема з ростам цэн часткова заключаецца ў тым, што ў Беларусі практычна няма антыманапольнага заканадаўства і прадаўцы могуць беспакарана дамаўляцца аб цане таго ці іншага тавару.

«Усё, разбой кончыўся, — заявіў кіраўнік краіны. — З чым мы да новага года прыйдзем? Усё гэта ў лістападзе-снежні мы павінны дачысціць. Трэба ўсё-такі на людзей глядзець больш. Вядома, людзі павінны варушыцца, працаваць, але і нельга людзей кожны дзень забіваць гэтымі цэнамі».

**ЗП**

# Поўны рэванш КДБ. Фігуранты «справы Грамовіча» прызнаныя невінаватымі

Справе, якую вяла следчая Байкова, **не далі ходу**.

Беларускі вайсковы суд 15 лістапада абвясціў прысуды па «справе Грамовіча». Амаль усіх фігурантаў апраўдалі.

Слуханне справы пачалося 21 мая летась, пасяджэнні праводзіліся ў закрытым фармаце. Да крымінальнай адказнасці былі прыцягнуты 36 чалавек, большасць з якіх з’яўляліся службовымі асобамі мытні «Заходні Буг» (у тым ліку два намеснікі начальніка мытні і начальнік паста) і Упраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці (былы намеснік начальніка ўпраўлення, а таксама начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй). Паводле ацэнак следства, ад нявыплаты мытных плацяжоў дзяржаве быў нанесены ўрон у памеры звыш 30 млрд рублёў.

У СМІ гэтую справу назвалі «справай Грамовіча» па прозвішчы арыштаванага 15 студзеня 2009 былога дырэктара Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю, а раней намесніка начальніка Упраўлення дзяржбяспекі па Брэсцкай вобласці Анатоля Грамовіча.

У выніку БВС прыняў рашэнне спыніць вытворчасць па крымінальнай справе ў дачыненні да дзевяці фігурантаў за адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства. Гэтыя людзі маюць права на поўную рэабілітацыю, аж да аднаўлення на ранейшым працоўным месцы.

Яшчэ 25 абвінавачаных прызнаныя невінаватымі за недаказанасцю ў частцы учыненых злачынстваў. У іх ліку Анатоль Грамовіч і былы намеснік начальніка мытні «Заходні Буг» Яўген Селіванаў.

**БелаПАН**

## Сцісла

**У Наваполацку гатовыя пратэставаць**

Жыхары выступаюць супраць будаўніцтва палігону дзеля ачышчэння забруджанага нафтаю грунту.

**Паленне ў грамадскіх месцах забароняць**

Міністэрствам аховы здароўя плануецца прапісаць пытанні, звязаныя з абмежаваннем курэння ў грамадскіх месцах і, магчыма, поўнай забароны гэтага.

**Беларусь — Лівія — 1:1**

У першым тайме за прадстаўнікоў Афрыкі адзначыўся Ахмед Саад. А ўжо ў другім тайме Сяргей Карніленка ўсталяваў канчатковы лік — 1:1. Гэта апошняя гульня Бернда Штанге на пасадзе галоўнага трэнера зборнай Беларусі.

**Памёр Анатоль Белы**

Вядомы грамадскі дзеяч Анатоль Белы памёр ад ракавай пухліны. Смерць напаткала яго ў Мінску. Развітанне адбудзецца 17 лістапада ў Старых Дарогах, у доме, дзе сп. Белы заснаваў музей.

**Змяніў аператара, захаваў нумар**

У Беларусі ўсё ж будзе ажыццяўляцца перанос мабільнага нумара ад аператара да аператара. Той, хто будзе званіць абаненту, які перайшоў у іншую сетку, перад злучэннем пачуе адпаведную інфармацыю.

**Кату прэм’ера Брытаніі прапанавалі пайсці ў адстаўку**

Пасля таго, як у часе вячэры ў рэзідэнцыі Дэвіда Кэмерана была заўважаная мыш.

**ЗП; ЯМ; БелаПАН**

## Анонс

**Аўстрыя: ад імперыі да нацыі**




Што набыла і што страціла дзяржава, якая прайшла шлях ад вялізнай імперыі да дэмакратычнай рэспублікі? На гэтыя пытанні шукайце адказу ў новым, «аўстрыйскім» нумары ARCHE.

## Самае чытанае на nn.by за 9-15 лістапада

# «Рыначнікі і антырыначнікі»

**У публічную прастору выйшла сутычка паміж прэм'ер-міністрам краіны Міхаілам Мясніковічам і памочнікам Лукашэнкі ў пытаннях эканомікі Сяргеем Ткачовым.**

Сяргей Ткачоў, звяртаючыся да Міністэрства эканомікі, паспрабаваў аспрэчыць неабходнасць рэзкага скарачэння фінансавання дзяржпраграм.

На гэта намеснік міністра эканомікі Аляксандр Ярашэнка, паспрабаваў растлумачыць памочніку прэзідэнта, што цяперашняя інфляцыя мае інерцыйны характар і выкліканая эмісіяй, якая праводзілася раней.

«Вы так актыўна дапамагалі фармаваць усе праграмы... Цягам апошніх 10–15 гадоў», — з іроніяй сказаў Мясніковіч Ткачову.

«На 2011 год у планах у якасці крыніц фінансавання будаўніцтва 7,5 млн квадратных метраў жылля, малочнатаварных ферм, свінагадоўчых комплексаў і цэлага шэрагу іншых праграм было закладзена... нуль рублёў. Нуль!» — паўтарыў Міхаіл Мясніковіч.

На наступны дзень гэты канфлікт ужо выйшаў на ўзровень кіраўніка дзяржавы, які заняў бок Ткачова. «Мяне апошнім часам усё больш і больш насцярожвае праца нашага ўрада. Я не хачу даваць нейкіх ацэнак, скажу толькі адно, што вы значна саступаеце ранейшаму ўраду».



Намеснік міністра эканомікі Аляксандр Ярашэнка адважыўся супярэчыць памочніку Лукашэнкі.



Сяргею Ткачову не падабаецца сённяшняя праца ўрада.

**Асаблівае меркаванне Аляксандра Зімоўскага**

«Я мяркую, што эканамічныя погляды Міхаіла Уладзіміравіча Мясніковіча і Сяргея Паўлавіча Ткачова не надта разыходзяцца. Проста ідзе барацьба не за набыццё паўнамоцтваў, а за спіхванне адказнасці. Ніхто не хоча набраць больш паўнамоцтваў, а потым за іх адказваць. Наадварот, ідзе барацьба за тое, каб перакласці адказнасць на ўрад ці на эканамічны блок адміністрацыі прэзідэнта», — лічыць былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Зімоўскі.

Ураду Мясніковіча быў дадзены час да 9 мая, каб выправіць сітуацыю ў краіне.

«Вы ж чалавек дасведчаны, добра, пару маладых, жвавых хлопчыкаў у вас ва ўрадзе, але вы выдатна разумееце, што асабліва ў нашай сітуацыі вельмі часта нам даводзілася раней і прыйдзецца надалей уручную рэгуляваць некаторыя працэсы», — звярнуўся Лукашэнка да Мясніковіча.

Пасля такіх пікіровак эксперты загаварылі пра існаванне ва ўрадзе дзвюх груповак, умоўна — «рыначнікаў і антырыначнікаў».

Пра гэта кажа эканаміст Сяргей Чалы. Да рыначнікаў ён бы аднёс Сяргея Румаса, намесніка міністра эканомікі Аляксандра Ярашэнку, намеснікаў кіраўніка Нацбанка Надольнага, Лузгіна і Дубкова.

«Можна пабачыць, што гэта людзі аднаго веку, яны размаўляюць на адной мове. Мясніковіч далучыўся да гэтых маладых людзей, ставячы пад пагрозу сваю пасаду», — лічыць Сяргей Чалы.

На яго думку, усё болей сімпатызаваць «рыначнікам» пачынае і Надзея Ермакова. «Яе паставілі камісарам да не самых «надзейных» супрацоўнікаў Нацбанка, але яна ўсё больш і больш гатовая заняць іх пазіцыю», — мяркуе Чалы.

«Розніца паміж Мясніковічам і Ткачовым у тым, што першы прызнае усю глыбіню крызісЕ, а другі лічыць, што гэта часовыя цяжкасці і можна не мяняць эканамічную мадэль, а працаваць у той калязі, як мінулы ўрад, — кажа былы старшыня Нацбанка Станіслаў Багданкевіч. — Увогуле называць гэтых людзей рыначнікамі не выпадае, яны проста за здаровы сэнс».




Мясніковіч стаў на бок «рыначнікаў».

«Стаць на рыначныя рэльсы іх проста прымушае час. Мне здаецца, што нават Лукашэнка ў глыбіні душы разумее правільнасць такой пазіцыі. Мінуламу старшыні Нацбанка Пракаповічу загадвалі рабіць рэсурсы з паветра, і ён друкаваў пустыя грашовыя купюры. Сёння ўжо можна пачуць пра праблему дысбалансу ў гандлі, інфляцыю. Гэта ўсё я казаў Мясніковічу падчас асабістай сустрэчы, ціпер ён сам прыйшоў да такіх высноваў», — кажа С.Багданкевіч.

Калі ўсё ж прэм'ерства Мясніковіча будзе прызнана няўдалым, то ў якасці замены Багданкевіч бачыць міністра эканомікі Мікалая Снапкова. «Ён цалкам гатовы да такой працы».

«У гэтым змаганні пераможа той, у каго будзе болей аргументаў, — мяркуе С.Чалы. — Пакуль што за Ткачовым стаяць толькі голыя словы «мы хочам», «усё кепска», «патрэбна ручное кіраванне».

Зміцер Панкавец

# Халезін: «Гавары праўду» прапаноўвала сябе ў якасці «правільнай апазіцыі» ў парламенце

**У блогу рэжысёра-эмігранта Мікалая Халезіна быў апублікаваны дакумент «Канцэптуальныя палажэнні Праекта «Арганізацыі парламенцкай партыі і «Новай Палітычнай Сілы» з мэтай удзелу ў выбарах».**

«Улада, у прынцыпе, павінна быць зацікаўленая ў фармаванні «правільнай апазіцыі», — так пішацца ў дакуменце. Аўтэнтычнасць дакумента палавіністая: асобы, якія згадваюцца ў ім, пацвярджаюць, што ён на дзве трэціны праўдзівы. Зрэшты, ён фігураваў у працэсах па Плошчы.

На думку стваральнікаў дакумента, у «мадэрнізацыі палітычнага поля павінен быць зацікаўлены Аляксандр Лукашэнка». Бо гэта прывядзе да паляпшэння іміджу краіны, дыялогу з Захадам, а таксама да «павелічэння рэйтынгу Лукашэнкі».

«Лібералізацыя палітычнай мадэлі павінна быць «праектам, які кантралюецца па ўсіх правілах канфідэнцыйнасці» і садзейнічаць кардынальным зменам палітычных адносін дзейснай улады з сусветнай супольнасцю», — адзначаецца ў абгрунтаванні праекта.

Фармаваннем ініцыятыўнай групы, калі верыць дакументу, павінны былі заняцца каардынатар «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў, рэдактар колішняй «Белорусской деловой газеты» Пятро Марцаў і палітолаг Аляксей Пікулік. Менавіта ім адводзілася ключавая роля ў стварэнні «Новай палітычнай сілы».

«НПС арганізуецца ў рамках развіцця кампаніі «Гавары праўду». На першым этапе — стварэнне сацыял-дэмакратычнай партыі парламенцкага тыпу. У далейшым — фарміраванне «Руху» для ўдзелу ў каардынацыі дзейнасці і аб'яднанні палітычных сілаў, блізкіх па каштоўнасцях і ідэалогіі».

Асноўнымі мэтамі называюцца: «Фармаванне ідэалогіі з прарасійскім ухілам і кансалідацыяй мэтавага электарату: прыватны бізнэс, незалежныя прафсаюзы, інтэлігенцыя і студэнты; удзел у выбарах у органы мясцовай улады і ў палату прадстаўнікоў, стварэнне другой па колькасці фракцыі пасля «Белай Русі»; удзел у працы еўрапейскіх структур».

Першапачатковае фінансаванне праекта (каля 500 тысяч даляраў) будзе адбывацца за кошт «нелегальнай» спонсарскай дапамогі, як нацыянальнага сярэдняга і буйнога бізнэсу, расійска-беларускага бізнэсу, так і заходніх фондаў. «Пажаданая дапамога ўлады ў атрыманні спонсарамі партыі «дзяржзамоваў» і/ці ў асваенні некаторых сегментаў рынку», — адзначаецца ў дакуменце.

Праект, паводле Халезіна, датуецца 28 студзеня, г.зн. быў створаны праз месяц пасля прэзідэнцкіх выбараў. «Гаворка ў дакуменце пра стварэнне той самай «фракцыі КДБ» у парламенце», — адзначае драматург. Каардынатар «Гавары праўду» Андрэй Дзмітрыеў адказаў Халезіну:

«Вясной—летам 2010 мы працавалі над дакументам па стварэнні палітычнай сілы, потым распрацоўка гэтага дакумента была спыненая. Яго канфіскавалі падчас вобшукаў, ён ёсць у матэрыялах крымінальнай справы, як адзін з доказаў, што мы рыхтавалі пераварот. Наконт канфіскаванага Пятро Марцаў даваў паказанні на судзе над «Гавары праўду». Хтосьці ўзяў гэты дакумент, «творча апрацаваў», — апраўдваецца Дзмітрыеў.

Асобы, якія раней былі блізкія да кампаніі «Гавары праўду», пацвердзілі «Нашай Ніве», што гэткі дакумент у 2010 годзе існаваў і што дух дакумента супадае з тагачаснымі настроямі ініцыятараў кампаніі.

ЗП

# Генерал-губернатары на варце тэрытарыяльнай абароны




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Цяпер беларусам давядзецца часцей выязджаць на вайсковыя зборы.

«Тэрытарыяльная абарона павінна набыць **агульнадзяржаўны і ўсенародны характар**», — кажа Лукашэнка.

Указам кіраўніка дзяржавы званні генерал-маёраў прысвоеныя усім кіраўнікам абласцей, а таксама старшыні Мінгарвыканкама. Нават жарт узнік, што апошні раз у Беларусі генерал-губернатары былі яшчэ за часамі Расійскай імперыі.

Новыя генералы павінны стаць на варце тэрытарыяльнай абароны краіны. Гэта значыць, што як за савецкім часам павялічыцца колькасць вайсковых збораў для мужчын. Практыка выторгвання на пэўны час чалавека з сям'і заўсёды ўспрымалася ў штыхі.

Ядром фарміраванняў тэрытарыяльнай абароны Лукашэнка назваў прадпрымальнікаў. «Я не дарма кажу пра нашых камерсантаў, бізнэсмэнаў. Ім губляць больш, чым некаму тут, у гэтай краіне. Ім трэба знайсці сваё месца».

«Усё, што мы робім, — гэта не для паказухі. Нам паказуха не патрэбна, — падкрэсліў Лукашэнка. — Усё гэта — вельмі сур'ёзна, і не таму, што мы нечага там баімся. Нам трэба забяспечваць бяспеку сваёй краіны». Цікава, што для старшынь аблвыканкамаў нават абутку аднолькавага не знайшлося, некаторыя былі падчас нарады ў цывільных туфлях.

Лукашэнка перакананы, што такія фармаванні могуць быць найбольш эфектыўнымі для абароны краіны, хаця адмыслоўцы кажуць процілеглае.

Некалькі разоў у прамове Лукашэнкі праслізгвала пра пашырэнне НАТА, а таксама пра незайздросны лёс дыктатара Лівіі.

**Зміцер Панкавец**

## Валерый Фралоў: Партызанка сёння неэфектыўная

Пракаментаваць стварэнне войскаў тэрытарыяльнай абароны мы папрасілі генерала, былога дэпутата палаты прадстаўнікоў **Валерыя Фралова**.

**«Наша Ніва»: Валерый Дзмітрыевіч, як паставіліся да стварэння тэрытарыяльнай абароны?**

**Валерый Фралоў:** Не самая страшная справа. У швейцарцаў, якая з'яўляецца нейтральнай дзяржавай, дома стаяць аўтаматы, кулямёты, форма. І яны могуць даць адпор агрэсару. Але Беларусь — раўнінная дзяржава, таму наўрад у нас гэта прымяніма. Чорт яго ведае, з кім Беларусь сёння можа весці вайну. У сучасных умовах з цяперашняй зброяй партызанская вайна проста не можа быць эфектыўнай. Хутчэй, гэта рыторыка Лукашэнкі для нейкага падняцця баявога духу.

**«НН»: Што вайскоўцы думаюць пра наданне старшыням аблвыканкамаў званняў генерал-маёраў?**

**ВФ:** Як нармальны афіцэр, што 25 гадоў адслужыў у войсках, як я магу да гэтага ставіцца? Крыўдна за многіх афіцэраў, што цягнуць гэтае войска. У нас жа не ваенны час, каб так раскідвацца званнямі. Далі пагоны Колю, губернатарам, а яны нават абуцца нармальна не могуць.

**«НН»: Ці рэальна ў Беларусі ўтрымліваць 120-тысячную армію?**

**ВФ:** Зброя ёсць, казармы маюцца. Грошы, у прынцыпе, таксама патрэбныя не вельмі вялікія, у параўнанні з тым жа будаўніцтвам лядовых палацаў. Праблема ў іншым: маецца тэхніка, але няма каму яе абслугоўваць, за ёй сачыць.

**Гутарыў ЗП**

**Валерый Фралоў**

Нарадзіўся ў 1947 у Мінску. Скончыў Харкаўскую вышэйшую танкавую камандную вучэльню (1970), Вайсковую акадэмію бронетанкавых войскаў (1977), Акадэмію генеральнага штаба Узброеных сілаў СССР (1991), Акадэмію кіравання пры прэзідэнце Беларусі (2000). Генерал-маёр.

**Фотафакт**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Юнакі атакавалі камуністычны мітынг у Мінску 7 лістапада. «Спыніць камунізм» і «Камунізм — пад трыбунал», — скандавалі яны. Хлопцаў з «Маладога фронта» потым асудзілі да адміністрацыйных арыштаў.

## «Беларуская мара» зробіць нас мацнейшымі»

«Беларуская мара». Так называецца першы вялікі **фільм пра Плошчу-2010**.

Яго прэзентацыя прайшла ў Маскве, у Мінску паказвалі таемна. Фільм разляцеўся ў інтэрнэце.

Аўтарка — журналістка расійскага Першага канала беларуска Кацярына Кібальчыч.

У «Беларускай мары» апавядаецца гісторыя маладога чалавека з Мінска, які жыве ў краіне «апошняга дыктатара Еўропы». У аснову фільма леглі падзеі 2010–2011 у Беларусі: прэзідэнцкая кампанія, рэпрэсіі, судзілішчы і тое, як гэта адбілася на жыцці самай «стабільнай» постсавецкай рэспублікі.

«Беларуская мара» — апавяданне пра тое, як рэжым можа зламаць чалавека. І пра тое, як у дзяржаве з татальным кантролем можна быць шчаслівым, нягледзячы ні на што. Гутарка з аўтаркай Кацярынай Кібальчыч.



Кацярына Кібальчыч на маскоўскай прэзентацыі фільма. Цяпер дзяўчына на дзявятым месяцы цяжарнасці.

**Кацярына Кібальчыч**

Нарадзілася ў 1982 у Мінску. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ. Спачатку працавала ў Мінску ў газеце «Свободные новості». З чэрвеня 2002 — у праграме навін беларускага тэлеканала АНТ. А ў жніўні 2003 пераехала ў Маскву і пачала працаваць на 3-м канале. З 2005 перайшла ў праграму «Нядзельны Час» на Першым расійскім канале.

**«Наша Ніва»: Як з'явілася ідэя стварыць такі фільм?**

**Кацярына Кібальчыч:** Перад выбарамі мне здавалася, што адбываецца нешта надзвычайнае. Што вось гэты глыток свабоды, нават мінімальнай, абудзіў людзей, яны пачалі размаўляць пра палітыку. Я здымала больш матэрыялу, чым мне было патрэбна для рэпартажаў. Канчаткова вырашыла рабіць фільм пасля разгону Плошчы. Было так маральна цяжка, што трэба было нешта зрабіць, каб ўратаваць псіхіку. У Расіі навагоднія святы амаль два тыдні, ніхто не працуе. У гэтыя дні я прыехала ў Мінск і мы з сябрамі пачалі здымаць розныя інтэрв'ю, людзей на Акрэсціна, Управу БНФ, дзе збіралі рэчы.

**«НН»: Не было праблем падчас працы над стужкай?**

**КК:** У студзені на мабільны ў Мінску тэлефанавалі нейкія брутальныя мужыкі з пагрозамі. Я вырашыла хуценька вярнуцца ў Маскву. Памятаеце гэты час? Кожны дзень ператрусы, КДБ шукала тое самае, што я, — відэа. Я не хацела, каб мае кадры ім дасталіся. На працягу года, падчас працы над фільмам, я была параноікам. Усе з мяне смяяліся, з маёй канспірацыі. Але ў выніку ўсе прайшло ціха і спакойна.

**«НН»: Для якой аўдыторыі створаны фільм?**

**КК:** Для беларускай. Я, безумоўна, думала пра тое, каб фільм быў зразумелы па-за межамі нашай краіны. Але ён для беларусаў, менавіта таму я шукала сродкі, каб зрабіць «Беларускую мару» незалежна ад тэлеканала, дзе працую.

### На працягу працы над фільмам я была параноікам

**«НН»: Ці будзе фільм дэманстравацца на расійскім ТБ?**

**КК:** Мне б вельмі хацелася, каб фільм апынуўся на расійскім ці еўрапейскім канале.

**«НН»: Што для Вас такое «беларуская мара»?**

**КК:** Вярнуцца ў Мінск і займацца любімай справай. Я жыву 8 гадоў з нячыстым сумленнем, бо я пакінула сваю краіну, і мне здаецца, што жыццё ідзе недзе побач. Я кожны дзень ведаю, якое надвор'е ў Мінску, якія навіны. Забыць немагчыма і вярнуцца таксама нельга.

Фільм «Беларуская мара» — увогуле пра страчанае пакаленне, пра смутак, з якім мы жывём. Насамрэч я не ведаю, што рабіць. Але я ўпэўненая, што агульная «беларуская мара» можа зрабіць нас мацнейшымі і нават больш шчаслівымі. Самыя лепшыя словы ў фільме кажа дзяўчынка: «У Мінску ніколі не будзе вуліцы імя Лукашэнкі». І гэта так! А вуліца Васіля Быкава — будзе. І гэта абсалютна ясна, нягледзячы на сёняшнюю паразу. Гісторыя на нашым баку. Калі мы не здрадзім сабе, калі ў нас агульная мара — яна здзейсніцца.

**Гутарыў ЗП**

# «З якой мэтай купляеце валюту?»

**Новыя правілы продажу даляраў адправілі прадпрымальнікаў на чорны рынак.**

З 9 лістапада ў Беларусі працуюць новыя правілы куплі валюты. Даляры і еўра без пашпарта больш не купіш. Беларусы вярнуліся ў часы 1997—2006 гадоў, калі існавалі такія ж правілы. Карэспандэнт «НН» праверыў новаўвядзенні на сабе.

Аддзяленне «Беларусбанка» каля плошчы Перамогі. Дачакаўшыся сваёй чаргі, прашу $10 і запускаю секундамер. Раней абмяняць грошы можна было за секунд трыццаць, што ж будзе цяпер?

«Пашпарт з сабой ёсць?» — пытаецца касірка. «Вядома ж!» — соўгаю яго ёй. Мужчына збоку пытаецца, колькі цяпер у дзень можна купляць валюты. «Без абмежаванняў!» — з гонарам адказвае касірка і запускае праграму, у якую давядзецца ўвесці ўсю інфармацыю з майго пашпарта. Яна адразу ж удакладняе ў калегі: «Што, і месца нараджэння ўказваць?» Тая катэгарычная: «Запаўняй усе графы». У камп'ютар павольна перацякаюць прозвішча, імя, імя па бацьку, месца рэгістрацыі... Секунды цікаюць і цікаюць, а даляры я атрымаць так і не магу. Раптам касірка заходзіцца смехам: «А мэту куплі якую ўказваць?» Я задумваюся, сапраўды, навошта мне тая валюта?

Суседка падказвае: «Пішы, што для асабістых патрэбаў». Нарэшце анкетаванне скончваецца і касірка выдае мне грошы і чэк. Дарэчы, на ім ніякай асабістай інфармацыі няма, толькі сума валюты і курс, як і раней. Гляджу на секундамер — прайшло тры з паловай хвіліны.

...За некалькі дзён працы касіры спрактыкаваліся і пачалі працаваць хутчэй. Але практычнага сэнсу ў новых правілах усё адно мала: калі можна купляць колькі хочаш валюты, то нашто пашпартны ўлік? Тым не менш, новаўвядзенне абудзіла чорны рынак. Нягледзячы на рызыкі, да валютчыкаў вярнуліся тыя бізнэсоўцы, якія ад верасня спакойна куплялі патрэбныя для імпарту і ашчаджэння сродкі ў абменніках. У выніку курс валют на чорным рынку трохі падрос.

Ягор Марціновіч



Калі купляць валюту ў банкамаце, пашпартныя дадзеныя ўсё адно трапяць у агульную базу.

# Колькі каштуе прыняць ванну?

**Па танным тарыфе — усяго 590 рублёў, але «дарагая» ванна зацягне на 940 рублёў.**

Пытанне дарагіх душа і ванны ўсё часцей набывае не эканамічнае, а палітычнае адценне. Два гады таму венесуэльскі лідар Уга Чавэс заклікаў жыхароў сваёй краіны мыцца за тры хвіліны: «Многія, напрыклад, уключаюць душ і чакаюць, пакуль вада награецца, а потым доўга мыюцца і нават спяваюць пры гэтым, — абурана вяшчаў ён. — Душ па раніцах трэба прымаць на працягу трох хвілін: адна, каб абліцца вадой, другая, каб намыліцца, трэцяя, каб змыць мыла». Галоўнае, маўляў, што праз тры хвіліны душа чалавек больш не пахне непрыемна!»

Заклікалі ашчаджаць і ўлады Бразіліі. Маштабная рэкламная кампанія заклікала спраўляць малую патрэбу падчас памыўкі ў душы...

Беларусы смяяліся з лацінаамерыканцаў — і дачакаліся каштоўных парад ад айчынных чыноўнікаў. «Мы вызначым той мінімум паслуг, які будзе дазваляць чалавеку жыць камфортна. А хто захоча прымаць па пяць разоў ванну за суткі, той павінен плаціць больш. Гэта будзе справядліва,» — заявіў у красавіку віцэ-прэм'ер Анатоль Калінін. «Той, хто хоча мыцца часцей, павінен за гэта плаціць, а не дзяржава», — падтрымаў яго ў кастрычніку іншы віцэ-прэм'ер, Сяргей Румас.

Словы чыноўнікаў выклікалі абурэнне беларусаў, бо прымусілі рабіць уяўны выбар: быць чыстым і бедным ці брудным і багатым. Варта разабрацца, ці насамрэч пытанне ванны істотна б'е па сямейным бюджэце? Іншымі словамі, колькі каштуе памыцца па таннаму і па-дарагому.

Нагадаем тарыфы. Першыя 4,2 кубаметра ў месяц каштуюць па 890 рублёў за кубаметр, а астатнія — па 2545,9 рубля. Атрымліваецца, што за танны літр вады давядзецца заплаціць 0,89 рубля. За дарагі — 2,55 рубля.

У сярэднестатыстычную ванну можа змясціцца 240 літраў вады, каб не было пераліву. Калі пасадзіць туды чалавека, увальецца менш. Бяром па максімуму — няхай спатрэбіцца 210 літраў. Самае складанае пытанне — разлічыць, колькі будзе каштаваць падагрэў вады. Шляхам эксперыментаў, набраўшы «ідэальную» ванну, высвятляем, што па лічыльніку ўцякло 130 літраў гарачай і 80 літраў халоднай вады.

Для падагрэву 0,13 кубаметра гарачай вады спатрэбілася 0,0075 Гкал. Згодна з новымі тарыфамі, 1 Гкал каштуе 53 773 рублі. Гэта значыць, на падагрэў вады для ванны мы патрацілі 403 рублі. Больш, чым на саму ваду...

Падсумуем. Калі лічыць ваду па танным тарыфе, агулам мы патрацілі на мыццё 590 рублёў. Па дарагім — 940 рублёў.

Для параўнання, адна бульбіна каштуе каля 150 рублёў, луста хлеба «Нарачанскі» — 300 рублёў, шклянка малака — 600 рублёў. Але ці каштуюць яны расслабляльнай цёплай ванны пасля працоўнага дня?..

ЯМ

## Камуналка расце па ўсіх накірунках

**Тэлефон даражэе на 51%, а вываз смецця — на 39%.**

Пасля падаражання вады і электрычнасці чарга дайшла і да іншых камунальных паслугаў. Ужо з пачатку лістапада на 39% вырас кошт вывазу смецця. А з 15 лістапада карыстацца стацыянарным тэлефонам стала на 51% даражэй. Абаненцкая плата складае 4600 рублёў замест 3050 рублёў, а хвіліна размовы — 15 рублёў, а не 10 рублёў, як раней.

Услед за гэтымі падаражаннямі ўзнікла пытанне тарыфаў на тэхнічнае абслугоўванне і адлічэнняў на капрамонт. Гэтыя радкі «цягнуць» найбольш грошай у квартплаце, разам з ацяпленнем. Цяпер камунальшчыкі ініцыявалі падаражанне, бо жыльцы нібыта аплачваюць усяго 30% ад стратаў.

ЯМ

# Сусветны банк падрыхтаваў для Беларусі пенсійную рэформу

**Беларусы будуць працаваць да 65 гадоў?**

Сусветны банк апублікаваў даклад з аглядам дзяржаўных выдаткаў Беларусі. У ім банкіры даюць свае парады накошт рэформы пенсійнай сістэмы краіны. І хоць міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна сцвярджае, што ў краіне не разглядаецца павелічэнне веку выхаду на пенсію, відавочна, што пытанне наспела.

Па прагнозах, ужо праз тры гады дэфіцыт пенсійнага фонду пачне ціснуць на бюджэт, а праз некалькі дзесяцігоддзяў дасягне 5% ад ВУП. Як Сусветны банк прапануе вырашаць гэтую праблему?

1) Павышэнне пенсійнага веку да 63 ці 65 гадоў. Напрыклад, пенсійны век павялічваецца на 6 месяцаў у год для жанчын і на 3 месяцы ў год для мужчын з давядзеннем да 65 гадоў для абодвух палоў.

2) Паступовае зніжэнне стаўкі ўнёску на пенсійнае страхаванне з 29% зараз да 24% у 2015 годзе.

3) Увядзенне ўмоўна-назапашвальных пенсійных рахункаў для ўзмацнення ўзаемасувязі паміж індывідуальнымі памерамі пенсій і ўнёскаў.

Шчыльнае супрацоўніцтва Міжнароднага валютнага фонду і Сусветнага банка дае падставы меркаваць, што пенсійнае пытанне можа паўстаць падчас перамоваў накошт прадастаўлення Беларусі новага крэдыту.

ЯМ

**Чаканая працягласць жыцця ў Беларусі (2010 год):**

мужчыны — 64,6 года

жанчыны — 76,5 года



У беларускіх пенсіянераў свая валюта — бульба.

## Сцісла

**Пілоты «Белавія» зарабляюць каля 50 мільёнаў за месяц**

Пра гэта расказаў гендырэктар авіякампаніі Анатоль Гусараў: «Мы лічым, што гэтага недастаткова і працуем над тым, каб павышаць зарплату да ўзроўню заробку ў Расіі і еўрапейскіх краінах». Інакш пілоты пераходзілі б на працу ў іншыя кампаніі.

**Стаўка рэфінансавання — 40%.**

Гэта ўжо адзінаццатае павышэнне за гэты год. Беларусь умацавала сваё лідарства ў свеце па гэтым паказніку. Другое месца займае Конга з амаль удвая меншай лічбай — 22%.

**Каштоўныя металы зноў можна набыць за рублі.**

З сярэдзіны красавіка Нацбанк прадаваў зліткі толькі за валюту. Цяпер 1 грам золата каштуе 617 тысяч рублёў, 10 грамаў срэбра — 191 тысячу рублёў. Цана зліткаў вырасла за паўгода на 250—345%.

**Дзяржава кампенсуе студэнтам...**

тыдзень арэнды пакоя. Іншагародныя студэнты-бясплатнікі, калі ім не хапіла месца ў інтэрнаце, змогуць атрымліваць кампенсацыю на найм жытла. Вось толькі будуць выдаткоўвацца смешныя — 105 тысяч рублёў на месяц. Правы на кампенсацыю атрымаюць не ўсе студэнты, а толькі тыя, у каго ў сям'і нізкі даход.

**Лукашэнка загадаў пабудаваць тры дамы для шматдзетных сем'яў.**

Гэта будзе «таннае жыллё ў цэнтры Мінска». «Недзе трэба знесці непатрэбны хлам, а там пабудаваць невялікі комплекс або дом для шматдзетных сем'яў», — заявіў ён.

ЯМ

# Пухавік за мільён дзвесце

Што купляюць мінчукі на гродзенскім рынку, **чым жывуць** тутэйшыя і прыезджыя **гандляры**.

Раніца пятніцы, рынак «Паўднёвы» на ўскраіне Гродна. У гэты дзень, як і ў аўторак, ён працуе з гуртовымі купцамі. На стаянцы аўто з усёй Беларусі, трапляюцца расійскія нумары. Яшчэ не развіднела, але гандляры не заседжваюцца ў цёплых машынах. З торбамі і трывалымі пакетамі яны подбегам кіруюцца па тавар — прапанова абмежаваная, трэба паспець абысці канкурэнтаў.

Немалую колькасць наведнікаў рынку складаюць простыя пакупнікі, многія з якіх прыязджаюць сюды з Мінска арганізаванымі групамі на аўтобусах.

Я прыехаў на рынак па зімовую вопратку і абутак. У чэргах да боксаў з таварам пачуў, чым жывуць сённяшнія гандляры, па якія тавары сюды едуць са сталіцы.

**«Дажыліся — саляра даражэйшая за бензін!»**

Галоўная навіна раніцы — новыя цэны на паліва. Выглядае, што большасць гандляроў змырылася з самім фактам паэтапнага і няўхільнага росту цэнаў. Як апраўданне гучыць аргумент, што паліва і не можа быць танней, чым у Расіі. А на пытанні, чаму дызельнае паліва стала даражэй, знаходзяцца тлумачэнні пра папулярнасць аўто з дызельным рухавіком. Актуальнасць праблемы дарагога паліва выяўляецца не толькі ў размовах. Многія з рэгіянальных гандляроў пачалі ездзіць на рынак у складчыну. Збіраюць невялікую групу і сядаюць да таго, у каго машына большая, грошы за паліва дзеляць.

**Валютчыкі ізноў на кані**

Валюта па пашпарце — яшчэ адна гарачая тэма. І мясцовыя, і прыезджыя гандляры скардзяцца, што нядоўга цешыліся з вяртання валюты ў абменніку. «Напрыканцы месяца па касавым апараце ў мяне праходзіць у разы меншая сума, чым я мушу набываць у банку. Цяпер, калі мае дадзеныя рэгулярна фіксуюцца, я не магу быць упэўненым, што падатковая рана ці позна не зацікавіцца такім несупадзеннем», — дзеліцца трывогамі гандляр з Брэстчыны. Іншы кажа, што і не думаў выдаляць з тэлефона нумары знаёмых валютчыкаў.

Цэны на тавар гандляры называюць у рублях і абавязкова дублююць у валюце. Курс даляра тут, як

**Прадпрымальнікі не выдаляюць з тэлефона нумары валютчыкаў »**

правіла, акругляецца. Калі найлепшы курс у банках будзе складаць, напрыклад, 8850 рублёў, то на рынку ён будзе 8900.

**Візы і чэргі**

«А дзе Галя знікла, другі тыдзень няма?» — пытае жанчына з абветраным тварам у гандлярак зімовымі пухавікамі. «У чарзе па візу. Тавар у яе скончыўся месяц таму, а візу ніяк не зробіць».

Праз некалькі боксаў сабралася чарга па жаночую бялізну—гаспадыня кропкі захрасла ў чарзе на мяжы.

Візы і чэргі, а таксама абмежаванне на перасячэнне мяжы на аўто раз на пяць дзён не менш за праблемы з валютай ускладняюць жыццё прадпрымальнікам. І калі з абмежаваннямі з боку сваіх улад людзі ўжо амаль звыкліся, то ад палякаў праблемаў з візамі яўна не чакалі.

**Купляйце польскае!**

Не сакрэт, што многія едуць на гродзенскі рынак па якасны і танны польскі абутак. Ад лета колькасць кропак, што ім гандлюе, вырасла ці не ўдвая. Выбар тут амаль такі ж, як у крамах польскага абутку ў Мінску, а вось цэны істотна меншыя. У «Сталіцы», напрыклад, можна адшукаць летні абутак да 600 тысяч рублёў. За тыя самыя грошы на «Паўднёвым» можна купіць пару добрага зімовага абутку. Тутэйшыя гандляры падахвочваюць: набывайце ў запас, пакуль не падвысілі акцызы на замежны абутак.

Канкурэнцыю польскаму абутку складае танны шырспажыў. Калі год-два таму «кітайскім» абуткам гандлявалі адзінкі, то цяпер тут з'яўляюцца цэлыя развалы вырабаў са «скуры маладога дэрмаціну».

Акрамя абутку, на «Паўднёвым» прадаюць польскую побытавую хімію, ёсць тут салоны лямпаў ды іншае.

**Назад у 90-я**

Каля кропкі з цёплымі курткамі пачуў размову гандляроў пра хуткія ўжо халады. «Кажуць, зіма будзе халодная». — «Ды не, палохаюць людзей, каб скуплялі цёплыя рэчы ды пра іншыя праблемы не думалі». А побач вісяць пухавікі ад мільёна і вышэй. На адным цана — 1 250 000 рублёў. Па такой жа цане напрыканцы 90-х я набыў свой першы пухавік. Да дэнамінацыі ўсё вяртаецца на свае колы.

**Сямён Печанко**



PHOTO BYMEDIA.NET

У Гродна едуць па танныя польскія тавары.

# Дом ветэрана знеслі пад музей ВАВ

А спадкаемцы цяпер **не могуць атрымаць** кампенсацыю.

У 1946-м Іосіф Валчэцкі, інвалід Вялікай Айчыннай вайны, у Мінску, на 1-ым Басіялоўскім завулку, атрымаў зямельны надзел. Дзе пабудаваў дом. Недалёка ад цэнтра горада — побач Паркавая магістраль (пазней праспект Машэрава).

І ўсё б нічога, каб пляцоўку каля дома не выбралі пад будаўніцтва абеліска «Мінск — горад-герой». У выніку жытло Валчэцкіх з 59 м² скарацілася да 29,41. Гаспадару за страчаную маёмасць выдзялілі кватэру на вуліцы Асіпенкі. Але ў дзень, калі Іосіф Валчэцкі збіраўся прапісацца па новым адрасе, ён памёр. У выніку кватэра так і засталася ў дзяржавы.

Месца дамоў па 1-м і 2-м Басіялоўскіх завулках зойме новы будынак музея Вялікай Айчыннай вайны ў парку Перамогі. Згодна з праектам, пляцоўка пад аб'ект займае каля 4 га (40000 кв. м).

А дом на 1-м Басіялоўскім завулку ў спадчыну атрымалі яго дзеці — дочкі Валянціна, Марыя і сын Уладзімір. Апошні і жыў у доме, калі ў 2003, згодна з адпаведным рашэннем Мінгарвыканкама, яго ўнеслі ў спіс будынкаў, якія падлягаюць зносу. Марыя Байцова (Валчэцкая) спрабавала прапісацца ў бацькоўскім доме. Але двойчы, у 2005 і 2006, суд Маскоўскага раёна сталіцы адмаўляў у гэтым жанчыне. Падстава — рашэнне Мінгарвыканкама аб зносе.

Па словах Валянціны Валчэцкай, яе з сястрой і братам спрабавалі засяліць у адну кватэру — у якасці кампенсацыі. Але яны адмовіліся. У выніку ў 2007 адміністрацыя Цэнтральнага раёна сталіцы звярнулася ў суд з позвай да Валчэцкай В.І., Валчэцкага І.І. і Байцовай М.І. аб высяленні з дома. А рашэннем суда ад 17.03.2009 Валянціна і Марыя фіктыўна ўселеныя ў двухпакаёвую кватэру на вуліцы Ціміразева. Плошча аднаго жылога пакоя 13 кв. м, а другога — 18.

Валянціна Валчэцкая апелюе да Жыллёвага кодэкса РБ. Згодна з арт. 81, жылое памяшканне сацыяльнага карыстання даецца ў межах ад 15 да 20 м² агульнай плошчы жылога памяшкання на аднаго чалавека. Валянціна таксама адзначае, што такое рашэнне суда парушае і арт. 29 ЖК. Засяліўшы сясцёр у агульную кватэру, іх залічылі да адной сям'і. А згодна з заканадаўствам, нават родная сястра не адносіцца да членаў адной сям'і.

Разам з тым, па законе адсяленцы могуць самі выбраць варыянт кампенсацыі: атрымаць кватэру; будаўніцтва і (альбо) атрыманне ў спадчыну дома, пабудоў пры ім, раўнацэнных тым, што зносяцца; перанос і ўзнаўленне пры наяўнасці тэхнічнай магчымасці дома, што зносіцца; атрыманне грашовай кампенсацыі. Ім альтэрнатывы не прапанавалі.

...А дом на 1-м Басіялоўскім завулку, 6 знеслі два гады таму. 1 кастрычніка 2009 Уладзімір Валчэцкі выйшаў па справах, а калі вярнуўся, дом ужо ляжаў у завалах. Хаця, па словах Валянціны, брат падпісаў заяву, што гатовы перасяліцца. Не дапамагло.

Дабіцца праўды спн. Валянціна спрабавала ў чыноўнікаў. Была нават на прыёме ў тагачаснага генеральнага пракурора Рыгора Васілевіча. Сышліся на тым, што жанчына згодная на аднапакаёвую кватэру (брату такую ж далі). Ведамства Васілевіча накіравала ў Вярхоўны Суд два пратэсты па вынесеных рашэннях па справе Валчэцкіх. Але на сітуацыю гэта не паўплывала. Цяпер спн. Валянціна кажа, што на прыём да новага генпракурора Канюка яе нават не запісваюць.

А што з кватэрай на Ціміразева? Выдзеленая кватэра знаходзіцца ва ўласнасці дзяржавы. Яе можна прыватызаваць. Але Валчэцкая адзначае, што не будзе гэтага рабіць. Ды і засяляцца з сястрой не збіраюцца ў яе. Бо не згодныя з такім рашэннем. На кватэры па Ціміразева Марыя Байцова прапісалася сёлета. Бо ў сакавіку 2012 скончацца тры гады на абскарджванне. І тады ніякай праўды, лічыць, ужо немагчыма будзе дабіцца.

**Сяргей Макарэвіч**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Хто замовіў Бяляцкага?

**Абвінавачванне супраць праваабаронцы трымаецца на матэрыялах праслухоўвання.**

Працэс над кіраўніком праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесем Бяляцкім пачаўся 2 лістапада. І зацягнуўся. У судзе ўжо другі раз абвясцілі перапынак. Так, 16 лістапада пракурор Сайкоўскі паабяцаў прад'явіць Бяляцкаму новае, якое будзе значна адрозніваецца ад папярэдняга, абвінавачванне.

Суд над Бяляцкім з самага пачатку выглядаў палітычным.

Алесь Бяляцкі зачытаў ліставанне КДБ, Генпракуратуры і КДК. Так, 3 лістапада мінулага года на адрас намесніка генпракурора Шведа прыйшоў зварот з Камітэта дзяржбяспекі. У ім гаворыцца, што да іх паступіла ананімная заява, што «прадстаўнікі незарэгістраванай арганізацыі «Праваабарончы цэнтр «Вясна» з мэтай фінансавання радыкальнай апазіцыі выкарыстоўваюць грашовыя сродкі, якія паступаюць з-за мяжы».

І што сцвярджалася, для гэтых мэтаў на Бяляцкага і яго намесніка Стэфановіча зарэгістраваны банкаўскія рахункі ў Літве. «Разам з тым, прыняць законнае абгрунтаванае рашэнне па матэрыялах не з'яўляецца магчымым праз адсутнасць афіцыйных дадзеных пра факты рэгістрацыі Бяляцкім і Стэфановічам банкаўскіх рахункаў у Літве». І заяўнікі просяць накіраваць запыты кампетэнтным органам у Літву.

Праз колькі дзён КДБ звярнуўся да старшыні КДК Зянона Ломаця. Апошняму паведамляецца, што прыператрусе офіса «Вясны» канфіскаваныя аргтэхніка і дакументацыя, што мае дачыненне да матэрыялаў праверкі Бяляцкага. «Агляд канфіскаваных прадметаў і дакументаў будзе з'яўляцца доказнай базай у дачыненні да згаданых асобаў». І ў канцы старшыня КДБ Зайцаў рэзюмаваў: «Інфармуем для вырашэння пытання пра распачынанне крымінальнай справы ў дачыненні да функцыянераў ПЦ «Вясна».

Іншым цікавым момантам працэсу стаў ліст Мінюста Літвы да беларускіх калег. Адвакат Дзмітрый Лаеўскі перадаў суддзі завераную копію ліста ад 24 жніўня. У ім сказана, што літоўцы выдалі несапраўдную інфармацыю па рахунках Бяляцкага і Стэфановіча беларускаму боку. І просяць прабачэння.

Разам з тым, Бяляцкі і яго абаронца падаюць хадайніцтвы, каб як мага больш дакументаў далучылі да справы. Тое, што не было зроблена на папярэднім следстве, часткова робіцца падчас працэсу. Згодна з заканадаўствам, калі грошы атрыманы не для ўласнага карыстання, то плацельшчык павінен прадставіць адпаведныя дамовы, даручэнні. Але ад міжнародных арганізацый, якія пералічвалі сродкі на рахунак Бяляцкага, такой інфармацыі не запатрабавалі. Нават на хадайніцтвы абароны. Адвакат Лаеўскі, праўда, перадаў у суд пэўныя завераныя дакументы ад замежных партнёраў «Вясны». У іх адзначаецца, што ўсе грошы ішлі выключна на праваабарончую дзейнасць. Пра што атрымалі і справаздачы.

**Сяргей Макарэвіч**



**Бяляцкі патрабаваў весці суд па-беларуску, але яму адмовілі.**

**Алесь Бяляцкі**

ад 4 жніўня знаходзіцца пад вартай. Ён абвінавачваецца па частцы 2 артыкула 243 КК (утойванне даходаў у асабліва буйным памеры). Яму пагражае да сямі гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**КДБ лічыў, што праз Бяляцкага адбываецца «фінансаванне радыкальнай апазіцыі» »**

## Каментар

**«Вясна» як частка плана пагрому**

З ліставання КДБ, пракуратуры і КДК, зачытанага Бяляцкім у судзе, вынікае, што да падзей 19—20 снежня спецслужбы рыхтаваліся загадзя.

Справа Бяляцкага была задумана на піку так званай лібералізацыі.

2 лістапада міністры замежных справаў Германіі і Польшчы Гіда Вэстэрвэле і Радаслаў Сікорскі пабывалі ў Мінску, каб паабяцаць Лукашэнку 3 мільярды еўра ў выпадку справядлівых выбараў. А 3 лістапада КДБ паслала ліст, які стаў адпраўным пунктам справы Бяляцкага.

З ліставання вынікае таксама асаблівая роля намесніка генпракурора (цяпер — намеснік старшыні Следчага камітэта) Шведа, які вёў і справу Бябеніна і справу аб выбуху ў метро. Ізноў фігуруе ў ліставанні і генерал Зайцаў.

Ператрус у «Вясне» ў ноч пасля выбараў прайшоў літаральна праз дзве гадзіны пасля разгону Плошчы. Падставай была ўжо «справа аб масавых беспарадках»! Праз дзве гадзіны! Ці трэба яшчэ доказы, што тыя «беспарадкі» і ўсё, што за імі адбылося, былі часткай каварнага плана?

**Мікола Бугай**

# Вярбовачныя скандалы: хлопцаў змушалі пранікнуць у камп'ютары актывістаў

**Завербаваныя публічна адмовіліся ад супрацоўніцтва.**

У пачатку лістапада Максім Чарняўскі выклаў у інтэрнэце здымкі супрацоўніка спецслужбаў «куратара Дзімы», які яго вербаваў, і аўдыёзапіс іх размовы.

Чарняўскі быў адміністратарам суполкі «Надакучыў нам гэты Лукашэнка» ў сацыяльнай сетцы «Вконтакте» і стваральнікам сайта Gonzo.by. 13 ліпеня яго запрасілі ў КДБ для «прафілактычнай гутаркі», але замест яе Максім трапіў на пяцігадзінны допыт. У выніку ён быў змушаны згадзіцца на супрацоўніцтва.

КДБ хацеў адправіць яго ў Польшчу, каб уцерціся ў давер да лідара «Рэвалюцыі праз сацыяльныя сеткі» Вячаслава Дзіянава. Перад выездам Чарняўскаму выдалі камп'ютарны дыск з траянам-шпіёнам, які ён павінен быў актываваць на камп'ютары Дзіянава і, па магчымасці, іншых апазіцыйных актывістаў.

Цяпер Максім Чарняўскі ў бяспецы — ён працягвае адукацыю ў Польшчы.

Пра адмову ад супрацоўніцтва з КДБ заявіў і Уладзімір Кумец, які падчас апошніх выбараў працаваў у камандзе Уладзіміра Някляева.

Яго асноўная «місія» таксама была звязаная з Вячаславам Дзіянавым. Кумец павінен быў вывезці таго ва Украіну. А адтуль нібыта беларускія спецслужбы даставілі б Дзіянава ў Беларусь. Кумец мусіў яшчэ даведацца прозвішчы людзей, якія супрацоўнічаюць з беларускай апазіцыяй і недзяржаўнымі структурамі.

«Мне сказалі: «Мы будзем пісаць праекты, а ты будзеш падаваць гэтыя праекты ў польскі МЗС, а пасля дасі нам інфармацыю пра тое, хто прымае гэтыя праекты і хто фінансуе. Стыпендыя ў цябе ёсць, маўляў, яшчэ атрымаеш грошы і за праекты. Нам інфармацыя, табе — грошы».

У верасні на кватэру актывіста ў Мінску ўварвалася група захопу «Алмаз». Прычыну патлумачылі тым, што старэйшы брат Уладзіміра Антон падазраецца па арт. 186 КК — пагроза забойствам. Але забралі абодвух братоў. На Антона такі завялі крымінальную справу. А ў КДБ у абмен на свабоду брата Уладзіміру прапанавалі супрацоўнічаць. Актывіст пагадзіўся. У выніку справу супраць Антона закрылі. А Уладзімір выехаў у Польшчу.

**Кастусь Матушыч**



Раней публічна ад супрацоўніцтва з КДБ адмовіліся экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч, кіраўнік выбарчага штаба Саннікава Уладзімір Кобец, адміністратар суполкі «Мы за Вялікую Беларусь» «Укантакце» Сяргей Паўлюкевіч. Яны заявілі, што падпісалі дамовы з КДБ пад катаваннямі. Цяпер яны знаходзяцца за мяжой.

**«Куратар Дзіма» (на пярэднім плане) хацеў зрабіць з Чарняўскага «чалавека».**

## Сціслa

**Саннікаву лечаць спіну**

У кандыдата ў прэзідэнты абвастрыліся праблемы са спінаю. Цяпер ён зноў праходзіць курс ін'екцыяў. Кажа, што лекары ў Бабруйскай калоніі дастаткова ўважлівыя і сапраўды хочуць яму дапамагчы.

**Статкевіча шантажуюць?**

Па звестках са шклоўскай калоніі, Мікалая Статкевіча прымушалі падпісаць прашэнне аб памілаванні, выкарыстоўваючы шантаж. Палітыку пагражалі, што калі ён адмовіцца, то яго грамадзянская жонка Марына Адамовіч ці яе сын будуць арыштаваны.

**Аляксандр Малчанаў — на волі**

У камеры ён знаходзіўся ад 27 кастрычніка. За дзень да гэтага ў цэнтры Барысава невядомымі былі залітыя фарбай дзяржаўныя сцягі. Супраць былога палітвязня Малчанава і яго сябра Мікалаеўскага распачалі крымінальную справу.

**КМ**

# «Самы празрысты гатэль у Еўропе»

**Так называе пяцізоркавую гасцініцу сайт «Хартыя-97», сцвярджаючы, што «супрацоўнікі КДБ аказваюць замежным гасцям арыгінальныя паслугі».**

Як сцвярджае сайт са спасылкай на аднаго з супрацоўнікаў гатэля, усе нумары цалкам праслухоўваюцца, а апаратура знаходзіцца ў адным з пакояў на трэцім паверсе. Акрамя гэтага, калі ў гатэлі спыняюцца асабліва важныя госці, у двор падганяецца спецыяльны аўтобус з апаратурай для дадатковага маніторынгу тэлефанаванняў па мабільным.

Асаблівую цікавасць у беларускіх спецслужбаў выклікаюць грамадзяне Польшчы і Германіі. Відэазапіс вядзецца не толькі ў калідорах гатэля і ў некаторых нумарах. Схаваныя камеры мантуюцца ў мэблю, таршэры і плазменныя тэлевізары, сцвярджае сайт.

Выказваецца меркаванне, што праз уласную сетку WiFi адміністратары збіраюць усё, што атрымліваюць або адпраўляюць пастаяльцы: лагіны, паролі, файлы, што перасылаюцца, адрасы рэсурсаў, на якія заходзяць наведвальнікі, MAC-адрасы камп'ютараў.



**Гасцініца «Еўропа» апынулася ў цэнтры шпіёнскага скандалу.**

У гатэлі «Еўропа» спыняліся дэлегацыі заходніх палітыкаў, назіральнікаў на выбарах, вядомыя журналісты, музыкі, сябры місій МВФ і іншых міжнародных арганізацый.

**Сяргей Гезгала**

# Фаварыт Лукашэнкі Шаўцоў арыштаваны



**Старшыня праўлення «Трастбанка» Віктар Шаўцоў апынуўся за кратамі ў пачатку лістапада.**

Падставай для арышту аднаго з ключавых персанажаў у беларускім бізнэсе называюцца пэўныя факты з дзейнасці Шаўцова ў Венесуэле.

Віктар Шаўцоў атрымаў вядомасць як старшыня назіральнай рады ЗАТ «Трастбанк». Раней гэты банк называўся «Інфабанкам». Пасля таго як ЗША наклалі на яго санкцыі, абвінавconfigurationцішы ў шашнях з Садамам Хусэйнам, банк перайменавалі.

Шаўцоў меў інтарэсы ў розных сферах: ад аўтамабіле-і энергамашынабудавання да бізнес-цэнтраў і музея «Дудуткі».

Самыя вялікія грошы «Інфабанк» рэалізоўваў ці спрабаваў рэалізоўваць у далёкіх краінах, якія мелі асаблівыя адносіны з Лукашэнкам. Падкантрольныя бізнэсоўцу камерцыйныя структуры вялі актыўную дзейнасць у Іраку, Сірыі, Лівіі, працуюць цяпер у Іране.

**ЗП**

# Новы святы — ліквідатар уніяцтва

**Працэс падрыхтоўкі да кананізацыі аўтара «вяртання ва ўлонне праваслаўя» уніятаў, Мітрапаліта Літоўскага і Віленскага Іосіфа Сямашкі, пайшоў у пачатку года.**

І ўжо 4 красавіка Сінод Беларускага Экзархата Маскоўскага Патрыярхата, заслухаўшы рапарт старшыні камісіі па кананізацыі Беларускай Праваслаўнай Царквы архіепіскапа Навагрудскага і Лідскага Гурыя, пастанавіў звярнуцца да Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла «з хадайніцтвам аб магчымасці праслаўлення ў абліччы мясцовашанаваных святых Беларускай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліта Літоўскага і Віленскага Іосіфа (Сямашкі, 1789—1868)».

Святар Сямашка быў галоўнай фігурай у сакрэтным плане расійскіх уладаў, скіраваным на ліквідацыю Уніі. Ён дзейнічаў пад кантролем міністра ўнутраных справаў імперыі Блудава. У 1833 годзе яго пасвяцілі ў «біскупы». Перавод у праваслаўе рыхтаваўся тайна, амаль дзесяцігоддзе. Спачатку ўлады памянялі абраднасць і зачынілі дзве трэціны манастыроў.

Прымус да праваслаўя выклікаў у наступныя гады масавае адчужэнне ад царквы і нефармальны пераход у каталіцтва.

**СГ**






**Эратычны каляндар ад Ryanair**

Ірландская авіякампанія выпусціла чарговы каляндар з напаўаголенымі сцюардэсамі. 13 сцюардэс Ryanair зняліся для календара ў купальніках і ніжняй бялізне. Каляндар можна набыць на сайце кампаніі за 14 еўра. Прыбыткі ад продажаў календара пойдуць у дапамогу дзецям, якія пакутуюць ад рэдкага скурнага захворвання булёзны эпідэрмаліз. Супрацоўнікі «Белавія» пакуль не адважыліся на такі эксперымент.

**Сямён Цыбульскі**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Разруб, ці Візітоўка ад Расіі

Ведаю цяпер адну вясковую краму, у якой раз ці два на месяц адбываецца *разруб*.

«Глядзі, давай звернем! Дакладна разруб!» — усклікнуў сусед па дачы, з якім мы вярталіся ў Мінск.

Праз хвіліну мы шукалі месца на пляцоўцы, дзе ўжо пасвіліся два дзясяткі бліскучых аўто, некаторыя нават шыкоўныя. Сусед патлумачыў, што менавіта па колькасці аўто можна дакладна вызначыць, што сёння разруб.

...Праз усю залу, падобна на закручаную сялянскую кілбасу, цягнулася да прылаўка вялізная чарга, а ля самога прылаўка згрудзіўся ў чаканні невялікі натоўп, адцясняючы бабульку ў падрапанай ватоўцы, якая ўсё намагалася нешта пабачыць за паўзачыненымі дзвярыма. Раптам дзверы адчыніліся і адтуль, ледзь не згінаючыся пад цяжарам падноса, выкацілася сталая, густа нафарбаваная кабета... Чарга заварушылася, адразу вылучыліся найбольш актыўныя змагары за справядлівасць і сталі пільна сачыць, каб ніхто не ўлез без чаргі.

«А ты, бабуля, за кім стаіш?» — нервова спытаў хлапец у джынсах, над якімі калыхаўся навіслы жывот. «Ды мне трошкі, які кілаграм...» — «Трошкі, трошкі... Бачыш, колькі людзей? Наўрад усім хопіць...»

Разруб ішоў поўнай хадой, на прылавак плюхаліся ўсё новыя кавалкі свінога мяса з палоскамі бялюткага здору, з плямамі крыві вакол касцей, з яшчэ цёплым подыхам скончанага жыцця. Але чарга не кранался з месца. Раптам хлапец у джынсах падхапіўся і палез праз галовы прымаць ад ледзь бачнай ля прылаўка жанчыны набітыя мясам пакеты. Ці не з пяць разоў ён бег з тымі пакетамі да аўто і, цяжка дыхаючы, вяртаўся за новымі... «Во, на два мільёны ўзялі», — вымавіў нехта.

«Мусіць, вяселле...» — «Ага, вяселле... У Расію павезлі. Бачыў я там наша мяса. У тры разы даражэйшае...» — са злоснай усмешкай вымавіў галівудскага выгляду мужык, за шырокімі плячыма якога я чакаў у чарзе свайго часу. «Мусіць, там заробкі вялікія», — адазваўся яшчэ адзін сусед па чарзе. «Бачыў я іх заробкі... Вы Маскву не лічыце. Я пра астатнюю Расію, я яе амаль усю праехаў, аж да Сібіры — разбурэнне, галеча і павальнае п'янства... Дальнабойшчык я, мостам працую з Захаду на Усход... Дык вось што скажу: у нас тут у параўнанні з Расіяй Еўропа...»

## Якая рэвалюцыя, які пратэст, пакуль існуе разруб

«А ў параўнанні з Еўропай?» — запытаўся я. «Ва ўсялякім разе чысцяня і парадак... Аднойчы ехаў са знаёмай з Варонежа, дык яна ўсё захаплялася: ах, як прыгожа, які парадак, якая чысціня!..» «Ну, уздоўж хуткаснай шашы які праўда платы пафарбаваны, ды і палі прыбраны... А на разруб знаёмую не вазілі?..» Сура зморшча пачухаў патыліцу і палез у кішэню: «Вось, глядзіце, ці магчыма такое ў цывілізаванай краіне?» — і ён працягнуў мне зашмальцаваную візітоўку...

Не хопіць месца для пераліку паслуг дальнабойшчыкам, якія прапануе «БРАТИШКА» — фірма, што дзейнічае ў Чалябінску і вакол, абяцаючы «РЕШЕНИЕ ЛЮБЫХ ПРОБЛЕМ НА ТРАССАХ». Але вось што самае цікавае з абяцанак: «сопровождение», «бандиты», «соляра», «менты», «разборка»...

...Усё радзей з памяшкання, дзе адбываўся таямнічы разруб, выносіліся кавалкі таннага, па 28 тысяч, мяса. Нарэшце нехта пусціў да прылаўка бабулю, яна нешта замармытала ў падзяках і ўзяла свой кілаграм. Чарга заенчыла — не хопіць...

Скончылася ўсё якраз перад дальнабойшчыкам. Ён мацюкнуўся і папрасіў узважыць нейкія вантробы, акуратна разложаныя ў празрыстых мяшочках. А мой сусед па дачы ўсё прасіў: «Паглядзіце, можа, ёсць яшчэ...»

Якая рэвалюцыя, падумаў я, які пратэст, пакуль існуе *разруб* і чарга енчыць ледзь не да бойкі? Калі і пратэст, дык адзін супраць аднаго. Не зусім бедных, дарэчы, людзей. Зусім бедныя наогул мяса не купляюць...

Адно спадзяванне — «Брацішка», які вырашыць любыя праблемы, суправодзіць і ў Мытны саюз, і ў ЕўрАзЭС, і ў АЭП, і гэтак далей і далей... А калі што, дык ёсць жа ў нас галоўнакамандуючы, тэрытарыяльныя войскі з генерал-губернатарамі на чале, гатоўнасць да ўсенароднай партызаншчыны супраць ракет з усімі іх боегалоўкамі...

...Не, не скажу, дзе тая крама, — зноў не хопіць...

# Сказ пра маю барбу

У Беларусі не зводзяцца Ведзьмакі-Лысагорскія. У Рэдакцыю «Нашай Нівы» даслалі новы ананімны сатырычны шэдэўр.



Я пра сваё прадназначэнне
Стаць ізбавіцелем людзей
Узнаў пры собственным раждзенні
І помню да последніх дней.

На зло і завісць апанентам
В такі-та дзень, такі-та год
Мяне ізбралі прэзідэнтам,
Я за сабой павёў народ.

Як аглядзеўся — справа, злева —
В бюджэце мышы і клапы!
Да ўшывых блох аравы смела
Вязалі з барышэй снапы.

Калхозы, фабрыкі ляжалі,
А ў прылаўкаў быў аншлаг!
У края пропасці стаялі…
Но я прыдумаў герб і флаг!

Вздахнулі ўзрослыя і дзеці,
Мы разагналі прэжні мрак.
Ну а хто эта не замеціў —
Тот адмарозак і дурак.

Для павышэнія даходаў,
(Хацят жа людзі лучшэ жыць)
Я прэдлажыў свайму народу
Нам Канстытуцыю змяніць.

Каб багацелі днем і ноччу
(Найдзёце эта между строк)
Прашу дабавіць палнамочый
І ўвялічыць власці срок!

Штобы дасціч пабеды чыстай
Адкрыта, смела, не тайком,
Прыжаў нячэсных журналістаў,
Назначыў новый ізбірком.

Вясьма давольны рэзультатам,
Каторы, ясна, ажыдаў,
З Савета выгнаў дэпутатаў,
Каторых я не ізбіраў.

Зажылі шчасліва й багата,
Встрычаем новасці з палей,
Как класік нам казаў кагда-та:
«Жыць стала лучшэ, весялей!»

Як у эканомікі капрызнай
Праблемы паявілісь вноў
Рашэніе сазрэла быстра,
Я ў рукаводства ўвёў сыноў.

Штоб укрэплялісь дух і члены,
Жалудачна-кішэчны тракт,
Па просьбе с мест паднялі цэны,
Всіх прывязалі на кантракт.

Вакруг васторг і лікаванні,
А рэйцінг вырас да нябес,
Ідуць народныя гулянні,
Усе адмецілі прагрэс.

Канешна, «пятая калона»
Падняла свой прывычны лай,
Ты ім па западным шаблонам
Рэформы срочна падавай!

Прэсёк, як нада, гарлапанаў
За іх пустыя славеса,
Намеціў многа новых планаў,
Включая дажэ чудзеса.

Даю даждзі, бензін, крэдзіты,
Жду ад зямлі багаты дар,
Но ўдруг наносят недабіткі
Па ўражайнасці удар!

Для блага пасяўнога кліна,
Хоць і не наша тут віна,
Я ўзяў з сабой на поле сына —
Зусім малога пацана!

І ўміг ісчэзлі недароды,
Звялісь іздзержкі да канца.
Как с точкі зрэнія народа,
Так і па мненію атца.

Апяць руцінаю дарога
Нам пралажыла каляю,
Сказалі ўжэ — я вышэ Бога,
Но і зямное я люблю.

З усіх прыёмнікаў мой голас,
Нясу красіва ўласці груз,
Іграў в хакей, асвоіў космас,
Саздаў таможанны саюз.

Індзейцы, негры, папуасы
За мірны сон благадарат,
Кагда мы ў маршальскіх лампасах
Выходзім з сынам на парад.

Дзел слаўных пухне картацека,
Не дапусцілі мы вайны,
Пастроіў вам бібліацеку,
Саздаў історыю страны.

Пагоня, Грунвальд, Рым і Троя
Ужэ дасталі! Наканец,
Вы саўраменнаму герою
Надзеньце лаўравы вянец!

Па ліцам віжу: сабражают,
Аб чым історыкаў прашу.
Пусць скромнасць
женшчын украшает —
Я ж украшэній не нашу!

Патом паслаў пісак у баню,
Зачэм іх буду іздаваць?
«Вайну і мір» і «Дзядзю Ваню»
Ведзь не сумелі ж напісаць!

Аперадзілі ў прошлым веке?
Тады пішыце а сваём
Прастом і гордам чалавеке,
Надзеюсь, понялі, а ком.

Такія трудныя праблемы
Всегда ў маём парадке дня,
Но ўсё жэ самай сложнай цемай
Ёсць перавыбары мяня.

АБСЕ, ЕС і НАТА
Не падбіраюць нежных фраз,
Мол, я сажаю дземакратаў,
Так была і ў последний раз.

Гатоў расставіць все акцэнты,
На цвёрдых фактах даказаць:
Сто дзесяць я набраў працэнтаў!
Но папрасіў нямножка зняць.

Штобы заткнулісь це жэ Штаты
Унясли папраўкі ў пратакол,
Но гвалт паднялі «дзермакраты»
Да еўрапейскій, блін, казёл!

Хамят народнаму палпрэду
Ведзь не прагнуўся! Відна мсцят!
І элегантную пабеду
Дзезавуіраваць хацят.

Я жэстачайшэ ўсім атвеціл,
Хто не хаціт спакойна жыць,
І зноў у стране смяюцца дзеці!
Мяня не смогут накланіць!

Апяць ішчэзлі долар-еўра?
На кой каму ані нужны!
Набраў крэдзітаў? Тожа верна,
Но за крэдзіты ж вы далжны!

Узляцелі цэны ў прадмагах
А жызні ўравень вазрос!
На туалетную бумагу
Ведзь резка сакраціўся спрос.

Не ісчэрпалі мы рэзервы,
Хачу заверыць я людзей
Імею я стальныя нервы.
У запасе множэства ідзей.

Зажаў права, душу газеты,
Ліш только мучает вапрос:
Как сахраніць стабільнасць эту
Пака мой младшый не падрос?

Прыняць рашэнія асталась,
Кансенсус, думаю, найдзём,
Штоб власць в стране перадавалась
Ліш только палавым пуцём!

* * *

(ад Верамея)

Сказаць па праўдзе, у вершы гэтым
Зусім маленькі мой удзел.
Як шмат хто з Вас, чытаў газеты
Ды тэлебачанне глядзеў.

Падзеі дзён, вадой бягучых,
Я рыфмаваў, як толькі мог,
Калі сабраў усе «да кучы»,
Дык атрымаўся маналог!

У «інфармацыйным какаіне»
Амаль не знойдзеш іншых слоў:
«Адзін герой жыве ў краіне!»
А колькі ж побач халуёў?

Памерыў верш адказнай меркай,
Ці не пакрыўдзіў я кагось?
Не наракайце на люстэрка,
Яно паказвае, што ёсць!

Вялікі дзякуй за ўвагу!
Я ж, з пажаданнямі, далей.
Свабоды! Годнасці! З павагай,
Ваш

**Падарожнік Верамей.**

## Хто можа быць аўтарам?

«Сказ пра маю барбу», падпісаны псеўданімам «Верамей Падарожнік», працягвае традыцыю ананімных сатырычных паэм, распачатую ў 1970-я «Сказам пра Лысую гару». Паэма жывапісала норавы беларускай пісьменніцкай супольнасці часоў брэжнеўскага застою. У эпілогу аўтар жорстка крытыкаваў маральны ды нацыянальны занепад:

Быў час, быў век, была эпоха,
Калі гадаў інтэлігент:
Чаму стандартны выпівоха
Убранзавеў, як манумент;

Калі ў сталіцы беларускай
Культурна-сыты мешчанін
Лічыў грамадскаю нагрузкай
Язык «тутэйшым» прышчаміць...

Таямніца аўтарства «Сказу пра Лысую гару» раскрылася некалькі гадоў таму: прызналіся Ніл Гілевіч і Мікола Аўрамчык.

Аўтарства наступных дзвюх паэм, падпісаных там самым «Ведзьмаком», не такое пэўнае. У 1994-м газета «Свабода» надрукавала паэмы «Лука Мудзішчаў — прэзідэнт» і «Лука Мудзішчаў адказвае Ведзьмаку Лысагорскаму».

Над Беларуссю вецер сьвішча,
Пасохлі бульба і авёс.
Наш прэзідэнт Лука Мудзішчаў
Садзіцца ў чорны членавоз.

Паэмы высмейвалі новыя ўлады. У іх парадзіравалі мову і рыторыку Лукашэнкі:

В едзінстве толька наша сіла.
Нам так Расія памагла!
Ат мовы нас асвабадзіла,
Ат Каліноўскага спасла.

Радкі з паэм набылі вялікую папулярнасць і дагэтуль цытуюцца:

Хто канфрантацыі не ішчэт,
Цем канструкцыўны дам атвет:
Пусць я Лука, пусць я Мудзішчаў,
Но я ешчо і прэзідент!

Да «Адказу» асабліва падобны новы «Сказ пра маю барбу» — тая ж трасянкавая мова, тая ж назіральнасць, уменне пабачыць камічнае ў палітычнай дэмагогіі. Нават канцоўкі абедзве паэмы маюць надзвычай падобныя. Маем нібы два маналогі аднаго персанажа: першы — на пачатку «творчай дзейнасці», другі — праз 17 гадоў.

З'яўляецца ўражанне, што абодва творы напісаныя адным чалавекам.

Верамей Падарожнік не першы раз фігуруе ў самвыдатаўскай літаратуры. Некалькі гадоў таму выйшла кніга «Дарожныя замалёўкі», падпісаная гэтым псеўданімам. З яе можна сёе-тое дазнацца пра лад жыцця аўтара. «Праблемы, звязаныя з маёй працоўнай дзейнасцю, вымушаюць часта вандраваць па краіне, — піша ён у прадмове. — Звычайна ў цягніку з'яўляецца вольны час для роздуму... Цяжка зразумець сталага, а то і старога чалавека, у якога ад страху дрыжаць калені і зрываецца голас, калі на яго звяртае ўвагу начальнік. Такі будзе выконваць любыя бязглуздыя і нават злачынныя загады — абы ціха. Так пакрысе халуі ствараюць дыктатара. Пра гэта мае вершаваныя думкі».

Такім чынам, у Беларусі нарадзілася новая літаратурная загадка.

**Сяргей Мікулевіч**

# Ці тых гатовы расстраляць?

Прысуд **па справе мінскага тэракта** вынесуць 30 лістапада.

Суд зацягнуўся, грамадства стамілася ад яго. Але доўгі суд, калі сказаць каротка, не даў яснасці. Якія матывы тэрарыстаў? Няма пэўнага адказу. Як іх злавілі за два дні? Няма адказу.

Настрой людзей, якія сочаць за працэсам, перадаў у сваім апошнім слове пацярпелы Андрэй Тышкевіч. Дарэчы, характэрна, што з пацярпелых толькі двое скарысталіся магчымасцю выказацца, і абое яны выказалі сумненні ў вінаватасці Канавалава і Кавалёва. Астатнія маўчалі: не патрабавалі прысуду ці апраўдання.

Тышкевіч кажа, што выжыў выпадкова, бо знаходзіўся насупраць эпіцэнтра выбуху. Выбуховай хваляй яго выкінула на рэйкі на супрацьлеглым баку. Дзякуючы жыццёваму вопыту, ён здолеў выбрацца наверх. Праз дзесяць секундаў там на поўнай хуткасці праедзе цягнік.

Тышкевіч звярнуў увагу на тое, што, па заключэнні экспертаў ФСБ, пры такой моцы выбуху павінны быць баратраўмы ў радыусе 35 метраў. Але на абвінавачаным Канавалаву не было нават слядоў выбуховых рэчываў, хаця мог і баратраўму атрымаць. Бомба — 12,5 кг, працягваў ён. Але хлапец, які сядзеў на лаве над выбухоўкай, застаўся жывым. Што гэта за выбухоўка такая? Чаму не былі даследаваныя ўсе відэа з метро? — пытаўся ён у суда.

Таксама Тышкевіч не разумее, якім чынам адбыўся выхад на хату, дзе былі Канавалаў і Кавалёў. «Пачыцкая, асноўная сведка, сцвярджае, што 12 красавіка ніхто кватэру не пакідаў. Як выйшлі на кватэру?»

**Адвакат разгледзеў на відэа, што «чалавека з сумкай» у метро «вялі» »**

Тышкевіч сказаў, што не мае пэўнасці ў тым, што на лаве падсудных — тыя людзі, хто здзейсніў выбух. Такая ўпэўненасць знікла ў яго пасля вывучэння матэрыялаў суда.

Пасля выступлення Тышкевіча была спроба апладысментаў. Суддзя нават выдаліў дзяўчыну з залы. Адчування ачышчэння, пераадолення суд, дарэчы, не стварыў.




Адвакат Абразей (справа) угледзеў на відэа ўнутрыкадравы мантаж.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Выключная мера пакарання

Але пойдзем па парадку. Працэс аднавіўся 14 лістапада выступам пракурора. Усе чакалі, якой кары запатрабуе абвінавачанне. Пракурор Стук зачытаў: выключная мера пакарання.

4.07.2008 Канавалаў здзейсніў выбух у Мінску. Кавалёў даведаўся пра выбух, але не паведаміў праваахоўным органам.

11.04.2011 Канавалаў пры спрыянні Кавалёва здзейсніў выбух у мінскім метро.

Такія высновы зрабіла пракуратура.

На наступны дзень, пасля кароткага, поўнага горычы слова пацярпелага Тышкевіча адбыліся выступы абаронцаў. Адвакат Канавалава Дзмітрый Лепрэтар — прызначаны дзяржавай — абмежаваўся выказваннем сумневаў у віне свайго падабароннага.

А вось наняты сям'ёй Уладзіслава Кавалёва Станіслаў Абразей заявіў пра невінаватасць абвінавачаных і зрабіў шэраг важных заяваў.

### Канавалава «вялі»?

Абразей найбольш увагі надаў відэазапісу з камер назірання метро. Ён лічыць, што відэа не толькі наразалася на часткі ў адзін «фільм» з запісаў розных камер назірання, а мае ўнутрыкадравы мантаж. Абаронца Кавалёва прадставіў у сваім слове разгорнутае апісанне відэа.

Ён назваў канкрэтны час, на якім бачыць сляды мантажавання. Нават разгледзеў на відэа, што «чалавека з сумкай» у метро «вялі». На ягоную думку, была група людзей, якія дапамагалі яму рухацца.

На адным фрагменце, па словах адваката, чалавека з сумкай абыходзіць мужчына, азіраецца назад — сочыць, ці пайшоў за ім чалавек з сумкай. У іншым фрагменце перад меркаваным тэрарыстам разварочваецца мужчына, што ішоў насустрач, і чалавек з торбай накіроўваецца за ім. Па словах адваката, у апошняга мужчыны затушаваны твар. Ён указаў, што ў некалькіх выпадках на гэтым відэа адсутнічае секунда. Напрыклад, пасля 17.55.21 адразу ідзе 17.55.23.

А на адным з фрагментаў у чалавека адсутнічаюць ногі: бачна толькі верхняя частка тулава. Адвакат разгледзеў мазкі «зацірання». Ён лічыць, што чалавека «прыбралі» з відэа тэхнічнымі сродкамі.

### Дзе сляды выбухоўкі?

Абразей заявіў таксама, што на прадстаўленым відэа на сумцы ў чалавека няма белай эмблемы. У часе хады чалавек мяняе рукі і сумку пераварочвае так, што абодва яе бакі праглядаюцца. А ў матэрыялах справы пры апісанні сумкі эмблема (надпіс) прысутнічае. Адвакат звярнуў увагу, што на відэа куртка на чалавеку з сумкай сядзіць так, нібыта яна ледзь налезла. На відэа ж са следчага эксперыменту на Канавалаве куртка звісае, як вялікая.

Абразей заўважае, што на чорнай вопратцы добра заўважны сляды бруду, калі яны ёсць. І калі Канавалаў сапраўды быў у метро падчас выбуху, то ён павінен быць брудным. І робіць выснову, што Канавалава падчас выбуху ў метро не было. А на відэа з метро знаходзіцца іншы чалавек. Бо экспертыза не выявіла нават слядоў выбуховага рэчыва ў змывах з твару і носу Канавалава, ні ў яго валасах. А ён жа, па версіі следства, не толькі быў падчас выбуху ў метро, але і збіраў выбухоўку.

Пракурор Стук у кароткай рэпліцы ў адказ адзначыў, што абвінавачаны, на думку следства, у часе выбуху стаяў за сцяной, таму на яго і не трапіла выбуховае рэчыва.

### Апошняе слова

А затым — працэс па ўсіх правілах — з апошнім словам далі магчымасць выступіць абвінавачаным.

Кавалёў зачытаў сваё слова спакойна. Яго голас не дрыжаў. Ён паўтарыў довады свайго адваката. Толькі дадаў, што і Канавалаў не мае дачынення да выбуху ў мінскім метро. «Мне сорамна перад сабой і Дзімам, што аказаўся слабавольным і даў паказанні супраць яго», — сказаў Кавалёў.

Канавалаў ад свайго апошняга слова адмовіўся. «Не трэба», — усяго толькі сказаў ён. «Вы адмаўляецеся ад апошняга слова?» — перапытаўся яго суддзя. Ён кіўнуў, не выказваючы пры гэтым ніякіх эмоцый, нібы зомбі, а не чалавек, якому пагражае смерць і якога вінавацяць у смерці.

Калі гэтага чалавека расстраляюць, разам з ім пахаваюць і крывавую таямніцу.

Абвяшчэнне прысуду адбудзецца 30 лістапада, у сераду, апошні дзень восені.

**Сяргей Макарэвіч**

# Настаўніца абакрала сваіх вучняў

Яна скрала ў дзяцей **тры фотаапараты**.

Беспрэцэдэнтны выпадак здарыўся ў адной са школаў Партызанскага раёна Мінска. Настаўніца скрала ў сваіх вучняў тры фотаапараты. Пасля затрымання жанчына патлумачыла свой учынак цяжкім фінансавым становішчам.

Паводле прэс-службы Партызанскага РУУС, настаўніца прапанавала школьнікам прынесці на адзін з урокаў здымачы, каб сфатаграфаваць навучальны матэрыял. На перапынку жанчына вывела дзяцей на калідор, каб нібыта праветрыць кабінет. А сама ў гэты час лазіла па рэчах вучняў. Прадаць скрадзенае не паспела — бацькі напісалі заявы ў міліцыю і жанчыне давялося ўсё расказаць. Цяпер ёй пагражае да 4 год зняволення.

У каментарах пра гэты выпадак некалькі чытачоў напісалі, што настаўніца нібыта адна гадуе дваіх дзяцей і мае запазычанасць па крэдыце.

«Раней мы сутыкаліся толькі з тым, што дзеці кралі адзін у аднаго, або ў супрацоўнікаў школы», — кажа іншая мінская настаўніца.

**Сямён Печанко**

## Сцісла

### 10-гадовы хлопчык застрэліў стрыечнага брата

Трагедыя здарылася 13 лістапада на Шклоўшчыне. У вёсцы Ардаць у хаце 67-летняй пенсіянеркі 10-гадовы хлопчык па неасцярожнасці застрэліў з ружжа свайго стрыечнага брата. Небарака спалохаўся і вынес цела забітага на ўчастак каля дома.

### Разбіўся на квадрацыкле

Праваахоўныя органы праводзяць праверку па факце гібелі ў гарнальжным спартыўна-аздараўленчым комплексе «Лагойск» 28-гадовага расіяніна. 9 лістапада ўвечары жыхар Пензы перавярнуўся, катаючыся на квадрацыкле, і загінуў.

### Кралі саджанцы

На Берасцейшчыне 14 лістапада завялі адразу тры крымінальныя справы па фактах крадзяжу шчэпаў. Зладзеі папрацавалі ў Драгічынскім, Кобрынскім і Лунінецкім раёнах. Яны выкопвалі саджанцы малінаў, яблыняў, грушаў і туі. Агульная шкода налічвае каля 8 мільёнаў рублёў. Злачынцы пакуль не знойдзеныя.

**СП**

# Ад «Чорнага кабана» да «Маладой Беларусі»

У Мінску адчынілася **the best-выстава Алеся Марачкіна** «Логіка руберойду».

«Руберойд з латыні перакладаецца як «від чырвонага», аднак сам руберойд чорны. Ён мае пэўныя асацыяцыі з ізаляцыяй...»

Алесь Марачкін адкрыў у Палацы мастацтваў юбілейную выставу. «Прыходзілі дырэктар і адказны за выставу — не знайшлі крамолы. Самыя вострыя карціны я сам паздымаў, — кажа Марачкін. — У мяне ёсць новая карціна «Бураціна, котка і Карабас-Барабас», аднак я зраблю асобную прэзентацыю для яе. Бо карціна з дакладным падтэкстам».

Але вастрыня, характэрная для працаў мастака, нікуды не падзелася. «Вось я выстаўляю карціну «Смаленне чорнага кабана». Гэта 1970 год, стагоддзе Леніна, нас у вучэльні змушалі маляваць да юбілею. За «кабана» я атрымаў найніжэйшую адзнаку. Проста на карціне добра бачная атмасфера безвыходнасці...



Сяргей Гудзілін

На выставе — знакамітыя партрэты Мірона і Яўгена Куліка, карціна «Сцяна» — выява турэмнага муру з надпісамі. «Я прапаную гледачам алоўкі, каб яны маглі дадаць надпісы на сцяне: за апошні год там з'явіліся надпісы «Свабоду Саннікаву» і «Міхалевіч, душы КГБ!»

На выставе ёсць і краявіды, і партрэты гістарычных асобаў: Сапегі і Астрожскага. Апошнімі зацікавіўся міністр культуры Павал Латушка.

На выставе можна ўбачыць і працу «Маладая Беларусь» — сучасная дзяўчына ў каўбойскім капелюшы і з адраджэнскай атрыбутыкай. Ці партрэт Анатоля Сыса. Ці класічныя «маляваныя дываны».

І, канечне, дыптых «Логіка руберойду» — чорны руберойд, які мусіць быць чырвоным і непазбежна выклікае думкі пра ізаляцыю.

**Юрась Ускоў**

# «Фактар смеху»: як здымаецца тэлешоу

Карэспандэнт «НН» пабываў **у студыі АНТ**.

«Усе ўдзельнікі — аматары, не судзіце іх строга. Калі не ведаеце, дзе смяяцца, — там стаіць хлопец з плакатам. А цяпер паспрабуем...»

Рэжысёр сыходзіць са сцэны, з'яўляецца яго намеснік і просіць усіх глядзець проста на сцэну цягам 20 секунд — падчас мантажу такія кадры знайсці найцяжэй.




Беларускае тэлебачанне ўзбагацілася народнай гумарыстычнай праграмай «Фактар смеху». Заяўку на ўдзел у ёй можа даслаць кожны. Вядзе перадачу Яўген Булка. У кожнай праграме ўдзельнічае дзесяць канкурсантаў, журы абірае пераможцу. Узрост не лімітаваны — у першым выпуску планка вар'юецца ад 9 да 74 гадоў.

Удзельнікі былі розныя, але вобразы іх нагадвалі «класічныя» камбінацыі: дуэт «спакойнага і нервовага» мужчынаў у калідоры радзільнага дома — нібыта Карцаў і Ільчанка; былі і нумары а-ля КВЗ; быў народны куплетыст з вершамі паводле анекдотаў.

— Зараз перад вамі выступіць Яна Лука! — кажа вядоўца, і зала выбухае авацыямі. Вучаніца шостага класа прамаўляе маналог. На развітанне журы рэкамендуе ёй узяць псеўданім. Член журы Вадзім Галыгін іранізуе, што праграму можна было б скараціць: «выступае Яна Лука» — і ўсё. Цікава, ці трапіць у эфір яго жартачкі, кшталту: «Я б вышыў да вас чацвёртым на сцэну, але ў нас болей за тры збірацца нельга».

Калі камеры адключаліся, жарты рабіліся яшчэ больш разняволенымі. Так, у аднаго з артыстаў на падтанцоўцы выступалі дзяўчаты ў камуфляжы. Калі іх папрасілі вярнуцца на сцэну, з залы выразна пачулася: «Яны даўно на Кастрычніцкай!»

Беларускамоўны нумар з дзесяці быў толькі адзін — народны куплетыст з Чэрвеня спяваў прыпеўкі пра сваіх суседзяў. З журы куплетыст размаўляў па-беларуску, але ніхто з «мэтраў» на беларускую ў дыялогу не перайшоў.

А артыст, апрануты Карлсанам, раптоўна пачаў жартаваць пра беларускія рэаліі: вось Карлсан пераехаў у Беларусь, дзе мусіць фарбаваць дрэвы ў белы колер знізу, пасля трапляе ў калгас, скардзіцца на адсутнасць валюты і на тое, што «95-е варэнне» каштуе ажно 5800 за літр. «Апазіцыянер ваш Карлсан, — прамаўляе нехта з журы. — Куды ён у выніку прыляціць?»

Гэты нумар прызналі найлепшым у праграме.

Абвяшчаецца перапынак, масоўка ідзе курыць і есці. Гледачы выглядаюць не столькі вясёлымі, колькі стомленымі — у зале спякотна ад сафітаў. Дый АНТ не здымае адно шоу за раз — за два дні ў Тэатры музкамедыі зрабілі пяць выпускаў.

Дзіўна: аматарскі «Фактар смеху» глядзіцца не горш за «прафесійныя» расійскія шоу. Але і не лепей.

**ЮУ**

## Сцісла

### «Лістапад»: спецпрыз фільму аб народных пратэстах

На дзяржаўным кінафестывалі «Лістапад» была адзначана адмысловым прызам польская стужка «Чорны чацвер». Гэты жорсткі антыдыктатарскі фільм рэжысёра Антонія Краўзэ распавядае пра расстрэл камуністычнымі ўладамі Польшчы рабочых пратэстаў у 1970 годзе. Паказ яго ў мінскім кінатэатры можна разглядаць як надзвычайную рэч.

### Горан Брэгавіч едзе ў Мінск

1 снежня ў Вялікай зале Палаца Рэспублікі пройдзе канцэрт славутага Горана Брэгавіча. Гэта аўтар музыкі да фільмаў Эміра Кустурыцы «Час цыганоў», «Арызонская мара», «Чорная котка, белы кот».

**АГ; poczobut.livejournal.com**

# «Не быць скотам — скотам не быць!»

**Новы кліп Міхалка** на верш Купалы: БНР, бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня».

7 лістапада «Ляпіс Трубяцкой» прэзентаваў кліп на верш Янкі Купалы. Яго сюжэт адсылае да падзей пачатку XX стагоддзя. Пачынаецца кліп як пераклічка беларусаў праз турэмныя краты. У камерах — селянін, рабочы, інтэлігент у вышыванцы, хлопчык-жабрак, шахцёр, барадаты вайсковец, прыгожая ці то рэвалюцыянерка, ці то сама Маці-Беларусь. Пасля хлопец, хаваючы твар у шалік, кідае карктэйль Молатава. Потым пераклічка вязняў ператвараецца ў скандаванне фінальнага «Не быць скотам — скотам не быць!» За рэфрэнам выразна чытаецца: «Мы не рабы — рабы не мы».

Песня і кліп на верш Янкі Купалы («Хто ты гэткі», 1908) адразу зрабіліся хітом у інтэрнэце. У Беларусі Міхалка палохалі крымінальнай справай за зняважлівую крытыку Лукашэнкі ў інтэрв'ю.

Звычайна лідар «Ляпісаў» іранічна ставіцца да глабальных праблемаў. Сур'ёзнасць Міхалка мяняе яго вобраз: са «свайго ў дошку» бліжэй да вобразу рок-іконы, як Шаўчук для Расіі ці Спрынгсцін для ЗША. І купалаўскі радок «Не быць скотам!» можа зрабіцца лозунгам на мітынгах.

**ЮУ**



# Дзяржаўнасць насуперак, а не дзякуючы бальшавікам

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Лідар партыі левых «Справядлівы свет» Сяргей Калякін ужо не першы раз агучыў тэзіс «калі б не было бальшавіцкае рэвалюцыі — не было б незалежнае Беларусі».

Тэзіс Калякіна непрымальны хоць бы таму, што гісторыя як навука не любіць умоўнага ладу.

Па-другое, дапушчана лагічная памылка post hoc, ergo propter hoc (пасля гэтага, значыць з прычыны гэтага).

З адмаўлення бальшавікамі царскага самадзяржаўя ў бальшавіцкай Расіі не нарадзілася дэмакратычная рэспубліка з перыядычнай зменай урадаў. З асуджэння бальшавікамі сталыпінскага дзяржаўнага тэрору ў бальшавіцкай Расіі дзяржаўны тэрор не знік; наадварот... З асуджэння Уладзімірам Леніным Расіі як турмы народаў не вынікла свабода для народаў імперыі.

Апублікаваная бальшавікамі Дэкларацыя народаў Расіі была пустой абяцанкай, бо прынцып самавызначэння народаў Ленін хуценька падмяніў прынцыпам самавызначэння працоўных, рабочых і сялян (не ўсіх, а бедных). У бальшавіцкім жа разуменні рабочыя і сельскі паўпралетарыят — прыроджаныя інтэрнацыяналісты. Таму нацыяналізм (і патрыятызм) можа быць толькі буржуазны. Нельга любіць Беларусь як такую, можна любіць толькі Беларусь пралетарска-сялянскую, савецкую.



**Анатоль Сідарэвіч**

Гісторык, найлепшы знаўца беларускага руху XX ст., адзін з ініцыятараў адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Нарадзіўся ў вёсцы Задуб’е Ганцавіцкага раёна.

Камуністы з партыі Сяргея Калякіна, само сабой, станаўленне беларускай дзяржаўнасці датуюць 1-м студзеня 1919, хоць насамрэч Маніфест Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі быў падпісаны 2 студзеня. І падпісаны не ў Мінску, а ў Смаленску. І склад урада вызначаўся не ў Мінску, нават не ў Смаленску, а ў Маскве.

**Няхай сабе кволая БНР, яна ўсё ж змусіла бальшавікоў пачаць гульню ў савецкую беларускую дзяржаўнасць »**

У Маніфесце не сказана, што Беларусь абвяшчаецца Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай. Нічога не гаворыцца пра межы, пра адносіны з іншымі дзяржавамі.

Як ні круці, але дэ-юрэ ССРБ была абвешчана толькі праз месяц — на Усебеларускім з’ездзе Саветаў у самым пачатку лютага. Сам жа з’езд быў спектаклем у духу Франца Кафкі. «Прадстаўнікі працоўных Беларусі» абвясцілі нашу краіну незалежнаю сацыялістычнаю савецкаю рэспублікаю, прынялі Канстытуцыю, выбралі пастаянны орган улады — Цэнтральны Выканаўчы Камітэт. І адначасова прынялі пастановы аб знішчэнні ССРБ: аддалі ў склад Расіі Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні, вырашылі аб’яднаць ССРБ з Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай Літвы.

І 27 лютага 1919 на мапе з’явіцца ССР Літвы і Беларусі (таксама часовая).

Не трэба вінаваціць за ліквідацыю ССРБ Аляксандра Мяснікяна ці Вільгельма Кнорына. Апынуўшыся на чале Беларусі, а не Заходняй вобласці, яны супраціўляліся пастановам Масквы аб адрыве ад Беларусі трох усходніх губерняў і аб зліцці ССРБ з ССРЛ. І тады Ленін прыслаў у Мінск — на з’езд Саветаў — сваю «правую руку», Якава Свярдлова. З’езд, які складаўся спрэс з бальшавікоў, глядзеў на яго дырыжорскую палачку.

Леніну, Маскве ССРБ была непатрэбная. Яна (чытайце пратакол Цэнтральнага Бюро кампартыі бальшавікоў Беларусі ад 31 студзеня 1919) была створана з тактычных меркаванняў — як буфер паміж бальшавіцкай Расіяй і Захадам. Паколькі тры ўсходнія беларускія губерні з Захадам не межавалі, іх было вырашана ўключыць у склад РСФСР, а рэшту аб’яднаць з мікраскапічнай ССР Літвы.

І ўсё ж, думаю, больш важны чыннік, які змусіў бальшавікоў пагуляць у беларускую дзяржаўнасць, — «существование Белорусской Рады», гэта значыць Рады БНР (чытайце пратакол Цэнтральнага Бюро кампартыі бальшавікоў Беларусі ад 22 студзеня 1919). Беларуская ж Рада, Рада БНР паўстала не дзякуючы, а насуперак бальшавікам.

Бальшавіцкі пераварот справакаваў паскарэнне дзяржаватворчага працэсу ў Беларусі. Але гэта не азначае, што Беларуская Рэспубліка не магла з’явіцца без гэтага перавароту.

Разважаць так — значыць забыць азы марксізму. А марксізм нам кажа, што развіццё капіталізму спрыяе фармаванню нацый, а нацыятворчы працэс вядзе да дзяржаватворчага. Гэтак разважалі і маладыя беларускія сацыялісты, калі ў 1903 уключылі ў сваю праграму тэзіс аб незалежнай Рэспубліцы. У той дзень і пачалася наша, беларуская рэвалюцыя, рэвалюцыя ідэалагічная, якая вяла да рэвалюцыі палітычнай. Раней ці пазней Рэспубліка павінна была нарадзіцца. І яна нарадзілася. Няхай сабе кволая, яна ўсё ж змусіла бальшавікоў пачаць гульню ў савецкую беларускую дзяржаўнасць.

# Беларуская глыбіня. **Карані ў крыві**

Піша **Павел Севярынец**.

*...корань зла знойдзены ўва мне.*

***Еў 19:28***

Расійскае сеціва, даступнае з майго польскага мабільніка, ніяк не можа разблытацца з беларускай назвай, у каторай не праставляюцца кропкі над «і»: «Ласасін».

«Магчыма, вы шукалі «асасін» — упарта паўтарае гугл па-расейску. Асасіны — банда наёмных забойцаў, адурманеных, здзічэлых, што здзяйсняюць жорсткую разню. Тысячы гадоў татарскія ды царскія. Крыжацкія ды казацкія, гестапаўскія ды бальшавіцкія асасіны наталялі гэтую зямлю беларускай крывёю. А Ласасін — маёнтак у Пружанскім раёне, дзе ў пачатку XVI ст. нарадзілася маці Івана Жахлівага і дзе ўлетку 1863 палеглі ў баі сорак паўстанцаў Каліноўскага.

Пяць гадоў таму на Полаччыне мне давялося жыць ля развалінаў крэпасці Івана Жахлівага часоў Інфлянцкай вайны — і вось пагружаюся яшчэ на паўсотні гадоў глыбей, спрабую разабрацца, дзе яно, беларускае дно, і на Пружаншчыне дакопваюся да Ласасіна, адкуль матуля таго самага Івана Васільевіча, Алена Глінская. Дачка вялікалітоўскага баярына з татарскага роду (чый продак на Ворскле ўратаваў Вітаўта) Васіля Глінскага ды сербкі Ганны Яншыч.

Рыжавалосая «басурманка», як яе называлі, увяла ў Масковіі адзіную капейку (0,68 г срэбра, на якой вершнік з дзідай — кап’ём), вынасіла і выхавала найстрашнейшага расейскага цара — і ўрэшце згарэла, атручаная ртуццю. Ці не адсюль, з бездані беларускіх балотаў, звярыная, крывавая, шалёная лютасць маскоўскага цара?

Жахлівае, народжанае Аленай Глінскай, вярталася ў Ласасін кожнае стагоддзе, з кожным новым прылівам гвалту з усходу, і здавалася, што за 300 гадоў край затапіла цалкам. Паміраючы, радзіма Алены здрыгалася адчайнымі закалотамі.

13 лютага 1863 паўстанцы Каліноўскага, узброеныя паляўнічымі стрэльбамі і косамі, без бою занялі Пружаны. Месцічы віталі вызвольнікаў, акупанты паўцякалі. Але ўжо праз некалькі тыдняў, з прыбыццём карных войскаў, пачалося дзікае паляванне.

4 чэрвеня 1863 паўстанцкі атрад пружанскага шляхціца Феліксa Влодка (Шчаснага), у афіцыйных расійскіх дакументах названы «шайкай», уступіў у бой з царскімі войскамі на ўзлеску пушчы, ля Ласасіна. 40 каліноўцаў палеглі, Валер Урублеўскі з рэштай атрада здолеў вырвацца.

Над вялікай брацкай магілай вырас крыж. У 1933, за палякамі, тут усталявалі гранітны помнік. За саветамі — разбурылі. У 1989, у час беларускага адраджэння, з дапамогаю Пружанскага ПМК і Радыёзавода (якія, дарэчы, прыязджаюць па запчасткі на склад у Купліне) — аднавілі.

І вось у снежні 1991, праз паўтысячы гадоў пасля нараджэння Алены Глінскай, праз 428 гадоў пасля таго, як яе сын захапіў і зрабаваў Полацк, праз 128 гадоў пасля Каліноўскага тут жа, у Белавежскай пушчы, дзе была галоўная стаўка паўстанцаў, — імперыя, губляючы знакі ўлады, ад вайсковых базаў да тых самых маскоўскіх капеек, рассыпалася ў пыл.

Здавалася б, тутэйшая зямля так набрыняла гніллю тыраніяў і крывёю нявінных ахвяраў ды змагароў, што, апроч праведнікаў і волатаў духу, нікога іншага не тое што нараджаць — насіць ужо не зможа.

Але з чыёй крыві растуць карані тых беларускіх вайскоўцаў з бліжэйшага палігона, якія ўжо ў незалежным 1998 расстрэльвалі помнік паўстанцам (дзеля пацехі ці са злосці) з верталёта?

Чыя кроў караніцца ў тых, хто абыякава трывае ў гэтых запаветных мясцінах вуліцы, названыя імёнамі забойцаў іхніх дзядоў. Помнікі катам, уладу праваслаўнага атэізму?

Чыя, скажыце, кроў напаўняе сэрца навучэнца Пружанскага сельгастэхнікума, калісь участковага інспектара Пружанскага РАУС, а цяпер намесніка начальніка ГУУС Мінгарвыканкама, палкоўніка Ігара Яўсеева?..

Глыбіні беларускай забыўлівасці, беларускага страху, беларускага грэху — гэткія ж невымерныя, як і бездань беларускага генія.

Тыя, хто разбураў старажытнае Берасце, будуючы з цэглы храмаў крывавую крэпасць, і тыя, хто паляваў на каліноўцаў на Пружаншчыне, і тыя, хто асушаў беларускія балоты пад бункеры ды палігоны, намагаліся вырваць адусюль беларуса ўсяго.



**Павал Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Але як жа перапляліся ў кожным з нас крывыя карані зла са скрываўленым карэннем свабоды — як счапіліся, сцяліся, як рвуць, разрываюць кожнага тутэйшага!..

8 кастрычніка 2000 ксёндз Януш і бацюшка Уладзімір асвяцілі адноўлены пружанцамі і фундаваны Інай Кулей помнік паўстанцам — каменны, з «Пагоняй». Але дагэтуль назву Ласасін тут ведаюць адзінкі.

А з беларускіх нетраў, з балотаў, сатлелых касцей і пераблытаных каранёў ціха растуць крыжы. Незнішчальныя крыжы — і на іх, аддаючы Сваю кроў за нашу абыякавасць, здраду і слабасць, расхінае прабітыя рукі і ўсё спрабуе абняць гэтую няшчасную краіну Бог.

*Куплін*

**Як жа перапляліся ўкожным з нас крывыя карані зла са скрываўленым карэннем свабоды »**

# Пагрэліся на арабскім пясочку

Зборная Беларусі злётала ў ААЭ, але **няясна, з якой мэтай.**

Нямецкі трэнер Бернд Штанге праводзіць апошнія дні ў Беларусі. Пастаўленых задач ён не выканаў, кантракт з ім ніхто не падоўжыў. Зрэшты, у адстаўку таксама не адправілі. Далі дапрацаваць да канца.

У развітальную гастроль Штанге накіраваўся ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Федэрацыя выдзеліла грошы.

Цяжка сказаць, для каго рабіўся гэты вояж. Па-першае, дзіўным быў выбар супернікаў — Нігер і Лівія. Афрыканскі футбол у свеце каціруецца, але ніяк не гэтыя зборныя. Па-другое, аматары футбола сустрэч бы не пабачылі, з камандай не паехаў нават ніводны журналіст. Па-трэцяе, усё адно ў снежні ў каманды будзе новы настаўнік. Па-чацвёртае, ААЭ — няблізкі і нятанны свет.

Практычная карысць такіх спарынгаў зводзіцца да нуля. Штанге тлумачыў, што лепш гуляць хоць з кім, чым сядзець дома і піць піва. Немец узяў сабе за моду напрыканцы сезона вывозіць футбалістаў у цёплыя краі на неабавязковыя таварнякі: 2008 — Кіпр, 2009 — Саудаўская Аравія, 2010 — Аман. Як бачым, і на развітанне не адмовіў сабе ў такім задавальненні.

Напрыклад, не самыя бедныя славакі грошай для паездкі зборнай у ААЭ не знайшлі, таму матч Беларусь — Славакія так і не адбыўся.

Самае смешнае, што не адбылася нават запланаваная сустрэча з Нігерам. Толкам прычыны гэтага назваць пакуль не можа ніхто. Штанге сказаў, што не кажа нічога, бо ў ААЭ ў яго могуць узнікнуць праз тое праблемы. Афіцыйная версія — не ўзгадніл дэталі сустрэчы з федэрацыяй футбола ААЭ.

Ляцець за трыдзевяць зямель і не паклапаціцца пра такую элементарную рэч. Другая версія, што высоўваецца: матч адменены па прычыне, што ў той дзень Нігер даў палітычны прытулак сваякам Кадафі.

Як бы тое ні было, але атрымліваецца, што беларускія футбалісты паехалі ў ААЭ проста, каб паляжаць на пясочку. Анатоль Байдачны, папярэднік Штанге і ягоны жорсткі крытык, сказаў на гэта: «Штанге проста з'ездзіў пагрэцца на сонейку. Ды што казаць, калі гэтаму гора-спецыялісту забяспечваюць адпачынак за кошт Беларускай федэрацыі футбола на працягу апошніх чатырох гадоў».

Калі паглядзець бюджэт БФФ, то львіную яго долю складаюць грошы, што прыйшлі з УЕФА (70%). Спонсарская дапамога («Беларуськалій», «Альфа-Банк», Puma, МТС) складае толькі 9%.

Пры гэтым у федэрацыі не знаходзіцца грошай, каб існаваў грашовы фонд унутранага чэмпіянату. Яшчэ адзін пункт: няўжо грошы, што былі патрачаныя на тыднёвае пражыванне футбалістаў у Дубаі, нельга было патраціць на дзіцячы футбол? Хто не чуў пра славутую школу СДЮШАР №5, якая падарыла нам братоў Глебаў, Бялькевіча, Хацкевіча, а яе вучні па сённяшні дзень працягваюць трэніравацца на асфальце.

Ці будзе жорсткі разбор палётаў, ці справу спусцяць на тармазах, сказаць цяжка. Штанге ж так і не дасягне адзнакі ў 50 гульняў на чале беларускай зборнай.

**Зміцер Панкавец**




**У Дубаі беларусы жылі ў раскошным 4-зоркавым Emirates Concorde Hotel за 100 еўра за ноч.**

# Порна і эротыка на «Кубку Палесся»

«Порна» — гэта гульня зборнай Беларусі, якая пацярпела **тры паразы з буйным лікам**, эротыка была ў перапынку хакейных матчаў.




Ганебна для беларускага хакея скончыўся «Кубак Палесся», што праходзіў у гэтыя выходныя ў Гомелі. Наша каманда без шанцаў саступіла Славеніі, Даніі і другой зборнай Расіі.

Канечне, можна знайсці апраўданне, што нашы выступалі не ў наймацнейшым складзе. Большасць каманды складалі гульцы з унутранага першынства. Але беларусы ніколі не гулялі на «Кубку Палесся» ў аптымальным складзе, а перамогі былі.

Ёсць у гэтых паразах усё ж нешта сістэмнае. На сёлетнім сусветным першынстве беларусы саступілі французам, дзе няма ўвогуле прафесійнага хакея. Ледзь-ледзь засталіся ў элітным дывізіёне.

У краіне не першы год спрабуюць зрабіць хакей нацыянальным відам спорту, будуюць лядовыя палацы, а яго поспехі ўсё больш мізарнеюць. Найперш гэта адбілася на моладзевым і юначым ўзроўні, дзе пройгрышы Даніі і Францыі ўжо сталі нормай. Цяпер гэтае рэха дакацілася і да нацыянальнай каманды.

Натуральна, яшчэ ёсць запас у выглядзе братоў Касціцыных, Грабоўскага, Кальцова, Калюжнага, Мезіна, але ён таксама недаўгавечны.

«НН» пісала, як у хакейным клубе «Брэст» з горычу казалі, што знайсці хакеіста, які згодзіцца гуляць за 15 мільёнаў рублёў на месяц, практычна немагчыма.

Многія гульцы яшчэ ў юным веку ўпіраюцца ў столь, калі не бачаць сэнсу самаўдасканальвацца, атрымліваючы заробак у разы большы, чым іх бацькі. Вядомыя спецыялісты (Занкавец, Захараў, Краўчанка) неаднаразова ў сваіх інтэрв'ю гаварылі, што вялікія грошы разбэшчваюць, але дзяржава дыктуе такія правілы.

Яшчэ дзесяць-пятнаццаць гадоў таму Беларусь упіралася ў хакеі адразу следам за «вялікай шасцёркай». Цяпер нас перагналі Данія, Нарвегія. У прынцыпе, краіны, дзе хакеіст не можа атрымліваць дастаткова грошай.

Для беларускага хакея таксама няма іншага выбару, як паўпрафесійны стан замест сённяшняга фінансавання з боку дзяржавы, з некалькімі клубамі, што змогуць выйсці да самаакупнасці.

Зрэшты, пакуль не відаць ніякіх сігналаў, што ў беларускім хакеі гатовыя да радыкальных рэформаў.

**ЗП**



**Танцы, больш прыдатныя для стрыптыз-клубаў, дэманстраваліся перад школьнікамі на «Кубку Палесся».**

## Спорт сцісла

### Трэнер падмаскоўнага «Віцязя» пабіўся з мінскімі фанатамі

Інцыдэнт адбыўся падчас гульні першынства КХЛ. Мінскае «Дынама» вырвала перамогу на апошняй хвіліне. Замест таго, каб адыгрывацца, хакеісты «Віцязя» справакавалі масавую бойку, што вылілася ў больш чым 200 хвілінаў штрафу. Не вытрымалі нервы і ў трэнера «Віцязя» Андрэя Назарава, які пачаў клюшкай біць беларускіх фанатаў. Відовішча было феерычным **(глядзі відэа на nn.by)**. У выніку штрафы і дыскваліфікацыі атрымалі Назараў, хакеісты «Віцязя», а таксама «Мінск-Арэна».

### Легендарная «Славія» вяртаецца

Мазырская «Славія» вярнулася ў вышэйшую лігу футбольнага чэмпіянату краіны. У 1996 тады яшчэ мазырскі МВКЦ спыніў гегемонію мінскага «Дынама». У вышэйшай лізе клуб не гуляў шэсць гадоў.

### Новікава з золатам

Жахарка Жодзіна Настасся Новікава (вагавая катэгорыя да 58 кг) у Парыжы ўпершыню ў кар'еры заваявала золата Чэмпіянату свету па цяжкай атлетыцы. У двубор'і па суме двух практыкаванняў Настасся падняла 237 кг (101 кг у рыўку + 136 кг у штуршку).

**ЗП**

# БАТЭ — «Вікторыя»




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

23 лістапада ў Мінску адбудзецца сустрэча групавога этапа Лігі чэмпіёнаў паміж БАТЭ і пльзенскай «Вікторыяй». Пачатак у 21:00. Для БАТЭ гэты матч будзе мець прынцыповае значэнне. Пераможца атрымае магчымасць працягнуць барацьбу ў Лізе Еўропы.

## ФУТБОЛ

### 19 лістапада

**32 тур нацыянальнага першынства:** «Тарпеда-БЕЛАЗ» — «Нафтан», «Белшына» — «Шахцёр», «Гомель» — «Дынама» (Мінск), «Мінск» — «Дынама» (Брэст), БАТЭ — «Дняпро», «Віцебск» — «Нёман».

## БАСКЕТБОЛ

### Еўракубак

17 лістапада гродзенская «Алімпія» прыме ў сябе дома «Макабі» з ізраільскага «Ашдода». Матч пройдзе ў рамках жаночага Еўракубка.

### Адзіная ліга ВТБ

**18 лістапада ў «Мінск-Арэне» ў 19:00** адбудзецца сустрэча паміж «Мінск-2006» і «Лакаматыў-Кубань» (Краснадар). Матч адбудзецца ў рамках Адзінай Лігі ВТБ.

### Еўрачэлендж

**22 лістапада ў рамках турніра Еўрачэлендж «Мінск-2006»** прыме дома «Цюрк Тэлеком» (Турцыя). **Пачатак у 19:00.**

## СУСТРЭЧЫ

### «Вечары для закаханых»

**Пры касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску** з пачатку снежня будуць праводзіцца «Вечары для закаханых». Сустрэчы будуць цікавымі і карыснымі для ўсіх пар: як тых, якія ўжо вырашылі ажаніцца, так і тых, якія пра гэта нават не думалі. Па жаданні і магчымасцях пар «Вечары» могуць складацца з 9 сустрэч па 2—2,5 гадзіны адзін раз на тыдзень альбо заняткаў на працягу трохдзённага ўікэнду. Сустрэчы праводзяць сужэнская пара і святар.

## ІМПРЭЗЫ

### «Без палітыкі»

**Прэзентацыя кнігі Аляксандра Тамковіча «Без палітыкі»** адбудзецца **16 лістапада ў 17.00** у галерэі сучаснага мастацтва «Ў».

### Запрашаем на «Вячоркі»

**Краязнаўчы клуб «Каменіца»** запрашае на вечарыну народных танцаў «Вячоркі», у якой будзе браць удзел фольк-гурт «Рада» з жывой аўтэнтычнай народнай музыкай, традыцыйнымі мужчынскімі спевамі, знаёмымі і не вельмі танцамі (танчым і вучым), цудоўным настроем! Прыходзьце, такога вы больш нідзе не ўбачыце! **Імпрэза адбудзецца ў Палацы дзяцей і моладзі (Старавіленскі тракт, 41, кавярня «Планета зорак») у пятніцу, 18 лістапада а 18-й.** Грашовы ўнёсак — 5 тыс б. р., кветкі набываем на месцы. Праезд: трамваі № 3, 4, 5 ад ст. м. «Плошча Перамогі».

## КАНЦЭРТЫ

### «Унія»

**16 лістапада ў 19:00 у Рэспубліканскім Палацы культуры прафсаюзаў** мужчынскі хор «Унія» пасля доўгага перапынку дае канцэрт. Цана білетаў: 15—30 тысяч рублёў. Пытанні па тэлефоне: (029) 643-78-36.

### Лявон Вольскі ў Празе, Берліне і Беластоку

Канцэрты адбудуцца 17, 21 і 23 лістапада — адпаведна ў Празе, Берліне і Беластоку.

### :B:N:

**20 лістапада. 18.00. Клуб Re:Public.** Вялікі канцэрт гурта :B:N: (Бяроза). Адмысловы госць — Akute (Магілёў). Даведкі: (029)649-08-88, (017)310-31-42. Цана білетаў — 30—55 тысяч.

### «Стары Ольса»

**22 лістапада. Клуб Re:Public. 19.00. Свята дуды.** Сярэднявечная дыскатэка. Дзень нараджэння ў Змітра Сасноўскага. Удзельнічаюць: «Стары Ольса», Testamentum Terrae, Тодар Кашкурэвіч і інш. На канцэрце пройдзе выстава, прысвечаная беларускай дудзе. Цана білетаў — 35—65 тысяч.

## ВЫСТАВЫ

### «20 000 запальнічак»

**Праект «20 000 запальнічак»:** графіка Васіля Шугалея і жывапіс Вольгі Шугалей. «Вася Шугалей — гэта той чалавек, які здолеў за сваё нядоўгае жыццё пакінуць дзіўны, непаўторны, вар'яцкі след у культурным і музычным жыцці Мінска, Піцера і Масквы. Ён — чалавек фантастычна вынаходлівы, абсалютна рок-н-рольны і шалёна таленавіты, пры гэтым нястрымны ў сваіх жаданнях і памкненнях», — напісаў мастацтвазнаўца Максім Жбанкоў. Выстава праходзіць у галерэі сучаснага мастацтва «Ў».

### Novacity

**Самыя рэйтынгавыя працы вядомага фатографа Мікалая Мамінава** выстаўлены ў мастацкай галерэі Golden Coffee (пр. Незалежнасці, 18, 2 паверх). Выстава Novacity — гэта фатаграфіі, якія падказваюць, як інакш можна ўспрымаць рэчаіснасць. На фатаграфіях ужытыя nova-стылістычны падыход, з дапамогай якога аўтар прыводзіць гледачоў у свет нестандартных поглядаў і адчуванняў сучаснага грамадства.

### «Балаганчык»

**З 4 лістапада па 10 снежня ў выставачнай зале Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці (Гікалы, 4, бібліятэка ім. Пушкіна)** прызнаныя майстры лялечнага мастацтва прадставяць на суд гледача свае працы. Марына Скідан, Тацяна Хаберская, Вольга Чаканава, Ірына Ражко, Маша Капілава, Галіна Дзмітрук і многія іншыя імёны прагучаць на «Балаганчыку».

### Фота Соф'і Хамянтоўскай

**У Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Соф'я Хамянтоўская «Паміж кадраў. Фатаграфіі з 1925—1945 гадоў». Выстава наватарскім спосабам прэзентуе творчасць фатографа Соф'і Хамянтоўскай, якая нарадзілася на Палессі. Амаль увесь матэрыял прадстаўлены ўпершыню.

### «Вянок Максіму»

**У галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (пр. Незалежнасці, 116, 2-гі паверх)** праходзіць мультыпраект-выстава «Вянок Максіму», якая прысвечана 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

### «Новая калекцыя»

**З 8 лістапада ў Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва** будзе праходзіць выстаўка, што адбываецца ў межах традыцыйнага штогадовага праекта музея пад назвай «Новая калекцыя», мэта якога — пазнаёміць гледача з апошнімі паступленнямі ў фонды музея.

## ТЭАТРЫ

### 17 лістапада

**Беларускай драматургіі** — «Палёты з Анёлам»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 18 лістапада

**Лялек** — «Дом, які пабудаваў Свіфт»
**Опера і балета** — «Трыстан і Ізольда»
**Беларускай драматургіі** — «Вандроўнікі ў Нью-Ёрку»

### 19 лістапада

**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Оперы і балета** — «Бальмаскарад»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

### 20 лістапада

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Багема»
**Беларускай драматургіі** — CHANGE?!
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 21 лістапада

**Беларускай драматургіі** — CHANGE?!
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 22 лістапада

**Лялек** — «Шлях у нябёсы»
**Оперы і балета** — «Набука»

### 23 лістапада

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»

## КІНО

### Комікс ад Стывена Спілберга

**Прыгоды Цінціна: Тайна Адзінарога** (The Adventures of Tintin)

ЗША — Новая Зеландыя, 2011, каляровы, 3D, 107 хв.
**Рэжысёр:** Стывен Спілберг, прадзюсар — Пітэр Джэксан
**Акцёры для анімацыі:** Джэмі Бэл, Дэніэл Крэйг, Эндзі Сэркіс, Сайман Пэг, Кэры Элвэз, Тобі Джонс
**Жанр:** Анімаваныя прыгоды для ўсёй сям'і паводле комікса Эржэ
**Адзнака:** 7,5 (з 10)

У рукі журналіста Цінціна трапіла мадэль старога карабля з зашыфраванай цыдулкай. Разам з сабачкам Снежком Цінцін адпраўляецца насустрач прыгодам, дзе оперныя дыверсанткі служаць піратам, драпежныя птушкі крадуць паперы, а пустыня выклікае алкагольныя міражы.

«Прыгоды Цінціна» — праект Стывена Спілберга і Пітэра Джэксана. Калісьці Спілберга абвінавацілі, што ён спісаў свайго Індыяну Джонса з коміксната бельгійца Цінціна. Спілберг нічога не ведаў пра коміксы Эржэ, а калі азнаёміўся з імі, то загарэўся іх паставіць. Жаданне ажыццявілася толькі праз 30 гадоў, калі камп'ютарныя тэхналогіі зрабілі неверагоднае. У гэтым фільме вынаходлівы капітан-алкаголік, пацешныя інспектары, клептаман-калекцыянер і сам Цінцін з белым сабачкам. Іхняй энергіі з лішкам хапае, каб біцца партовымі кранамі, ладзіць пагоню на аўто, трызніць, здзіўляцца самім і здзіўляць гледачоў.

**Андрэй Расінскі**







### Без білета

**19 лістапада ў мінскім палацы спорту** адбудзецца канцэрт гурта «Без білета» і прэзентацыя новага альбому. Цана білетаў — 45-65 тысяч.

# Новыя хобі беларусаў — квілінг і скрапбукінг

**Чым заняць сябе** і сваіх блізкіх халодным восеньскім вечарам, апроч тэлевізара ды інтэрнэта?

Прапануем вашай увазе пяцёрку хобі, якія, нягледзечы на экзатычныя назвы, даступныя любому беларусу.



### Дэкупаж

Гэта тэхніка стварэння ўзораў на прадметах з дапамогай звычайных папяровых сурвэтак. Дакладней, не зусім звычайных, а святочных, на якіх нешта намалявана.

Тэхналогія нанясення ўзору наступная:

1. Выбіраем тое, што будзем дэкупаваць (выразаць), то бок сурвэтку з малюнкам, і тое, на што нанясём дэкупаж.

2. Выразаем малюнак і наклейваем на выбраную паверхню (можна звычайным клеем ПВА).

3. Даём аплікацыі высахнуць (працэс можна паскорыць фенам). Пры жаданні — дамалёўваем дэталі акрылавай фарбай.

4. Нарэшце — пакрываем наш выраб некалькімі пластамі празрыстага акрылавага лаку.

Пры жаданні замест сурвэтак можна выкарыстоўваць спецыяльныя аплікацыі для дэкупажу з рысавай паперы. Хочаце ўдасканаліцца ў гэтым рамястве — наведайце курсы. Кошт аднаго занятку складае ад 90 тысяч рублёў. Поўны курс складаецца з 10 заняткаў, па сканчэнні якіх вам уручаць пасведчанне.



### Квілінг

Квілінг, ці мастацтва скручвання паперы, паходзіць ад англійскага quill — птушынае пяро. Валодаючы тэхнікай квілінгу, можна ствараць з паперы вырабы, лёгкія і далікатныя, як сапраўднае пер'е.

Для стварэння фігурак у тэхніцы квілінгу спатрэбіцца звычайная папера (хоць існуе і адмысловая папера для квілінгу), нажніцы, клей, пінцэт, шыла (замест яго падыдзе стрыжань ад ручкі). Дарэчы, офісныя супрацоўнікі часам упрыгожваюць сваё памяшканне перад Новым годам такімі сняжынкамі.

### Пэчварк

Пэчварк, ці сшыванне шматкоў, дазволіць вам з карысцю выкарыстаць рэшткі тканіны. У выніку атрымліваецца стракатае палотнішча, з якога можна пашыць падушку ці дыванок.

Пэчварк можна шыць уручную ці на машынцы. Для спрашчэння работы выпускаецца адмысловы неклеявы флізелін з нанесенай сеткай геаметрычных фігур — квадратаў ці трохвугольнікаў.

### Скрапбукінг

Тэхніка скрапбукінгу дазволіць вам стварыць дызайнерскі фотаальбом альбо паштоўку, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя падручныя матэрыялы. Бярыце на ўзбраенне кавалкі тканіны, выразкі з часопісаў, фота, розныя гузікі і лентачкі — і сваю фантазію.



Калі з фантазіяй не вельмі, можна наведаць курсы скрапбукінгу. Кошт аднаго занятку, як і для дэкупажу, — 90 тысяч рублёў. Увесь курс складаецца з пяці заняткаў. У кошт уваходзяць усе неабходныя матэрыялы для стварэння аўтарскай паштоўкі, фотаальбома, «скрап-старонкі», а таксама навучанне тэхніцы скрапбукінгу.



« Падключайце фантазію — і стварайце!

### Лічбавы скрапбукінг

Існуе так званы «лічбавы» скрапбукінг. Па змесце ён не адрозніваецца ад звычайнага, а вось форма — электронная. Гэта значыць стварэнне скрап-старонак ці паштовак на камп'ютары. Тут набор інструментаў для аздаблення вашых фотакампазіцый бясконцы.

Падключайце вашу фантазію — і стварайце!

**Аксана Рудовіч**

**Аўто**

## Аўтамабалісты заключаць дамовы на ўборку снегу вакол машыны

Кошт паслугі складае **10 тысяч рублёў у месяц.**

У Мінску аўтааматары могуць заключаць дамовы на ачыстку ад снегу месцаў вакол сваіх аўтамабіляў у дварах. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар ГВА «Мінская гарадская жыллёвая гаспадарка» Уладзімір Рэнтовіч.

Ён нагадаў, што, згодна з правіламі, уладальнікі аўтамабіляў абавязаныя ачышчаць тэрыторыю вакол запаркаваных аўтамабіляў на адлегласці аднаго метра. «Некаторым аўтамабілістам гэта рабіць няма калі. У гэтым выпадку яны могуць звяртацца ў ЖЭСы для заключэння дагавораў на паслугі па ўборцы тэрыторый вакол іх аўтамабіляў на зімовы перыяд. Кошт паслугі складае 10 тысяч рублёў у месяц, тэрмін дагавора — чатыры месяцы», — сказаў Рэнтовіч.

Паводле яго інфармацыі, з 15 кастрычніка заключана прыкладна 600 дагавораў.

**БелаПАН**

**Транспарт**

## Месячныя праязныя на метро дзейнічаюць на два дні менш

Гэта зроблена па **«шматлікіх просьбах пасажыраў».**

Яшчэ нядаўна месячнымі праязнымі на мінскае метро можна было карыстацца лішнія два дні. Напрыклад, праязны на верасень працаваў ад 31 жніўня да 1 кастрычніка.

Гэты час даваўся пасажырам для таго, каб яны маглі замяніць картку без ажыятажу. Цяпер такі прыемны бонус знік. Чаму? Як высветлілася, віной сталі шматлікія скаргі... пасажыраў. Па словах начальніка службы руху Мінскага метрапалітэна Рыгора Якімкава, многія людзі, якія купілялі праязныя адразу на аўтобус і метро, скардзіліся, што прэферэнцыі не распаўсюджваюцца і на наземны транспарт.

Як паведамляе «Вячэрні Мінск», пасля «шматлікіх адказаў на такія скаргі» кіраўніцтва «Мінсктранса» ўпарадкавала тэрмін выкарыстання картак.

Выключэнне зроблена толькі для бескантактных картак. Яны па-ранейшаму будуць працаваць два дадатковыя дні.

**ЯМ**

**Здароўе**

## Ці карысная гарбата з мёдам?

Лепш **пакласці мёд на язык** і запіць вадой, раяць дактары.

Кажуць, што гарбата з мёдам не прыносіць асаблівага эфекту пры прастудных захворваннях. Чаму? «Справа ў тым, што пры тэмпературы 50–60 градусаў разбураюцца ўсе найбольш каштоўныя рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў мё-дзе: ферменты, вітаміны і т. д. Гэта варта ўлічыць аматарам дадаваць мёд у гарачую гарбату. Раствараць мёд у кіпені нельга», — кажа доктар Ганна Снягір.

«Пры тэмпературы да 40 градусаў мёд захоўвае лекавыя ўласцівасці. А таму лепш за ўсё раніцай з'есці лыжку мёду, запіўшы яго звычайнай гатаванай цёплай вадой. Калі мёд пакласці на язык і запіць, ён выдатна засвойваецца».

**«Народная газета»**





У Нью-Ёрку адбыўся штогадовы паказ знакамітага брэнда Victoria`s Secret. У грандыёзным шоу ўзяла ўдзел і наша суайчынніца Марына Лінчук.




**Самым дарагім серыйным аўтамабілем, які быў заўважаны ў Мінску, з'яўляецца Bentley Mulsanne. Яго аўтары ставілі перад сабой задачу стварыць «самы раскошны з усіх брытанскіх аўто». Арыенціровачны кошт такой машыны — 550 тысяч даляраў.**



**Над рэзідэнцыяй кіраўніка Беларусі бел-чырвона-белыя сцягі. Такой нашу краіну ўбачылі стваральнікі амерыканскага серыяла «Нікіта».**



## Анекдоты

* * *

Прыязджаюць два турысты ў Беларусь і адзін кажа:

— Трэба ж гадзіннік перавесці, на колькі тут час адстае?

— На 20 гадоў.

* * *

У Горках — два помнікі Леніну. Трэба дакупіць трэці і стварыць суполку РСДРП.

* * *

Што галоўнае ў пытаннях тэрытарыяльнай абароны? Галоўнае — не забыць страявую падрыхтоўку, а інакш што за армія? Кожны дзень пачынаць з дзвюх гадзін страявой для ўсіх 120 тысяч па краіне, з генерал-губернатарамі ўключна! Раз у месяц — агульны парад!

* * *

Мубарак памёр і трапляе ў пекла. Служыцель каля брамы пытаецца:

— Атрута? Куля?

— Фэйсбук.

* * *

Грэцкую кашу па 15 000 за кілаграм маслам за 9 290 за пачак не сапсуеш!

* * *

У Мінску здзейснены напад на інкасатарскі аўтамабіль. Зламыснікі адкруцілі колы, злілі бензін і ад'ехалі ў невядомым кірунку. Груз беларускіх рублёў рабаўнікоў не зацікавіў.

* * *

Самая рэальная шкода ад курэння — гэта калі ты выходзіш пакурыць, а суседзі па інтэрнаце з'ядаюць тваё пяльмені.



**Фін з дапамогай татуіроўкі зрабіў бялкі вачэй чорнымі. У свеце ўсяго 15 чалавек, у якіх ёсць татуіроўкі на вочным яблыку.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Ёсць два месцы, куды наша мова дагэтуль не мае доступу.** Першае — гэта народная школа. Праўда, дзе толькі вучыцель шчыра рупіцца аб навуцы дзяцей, там яму само сабой прыходзіцца хаця б спачатку тлумачыць вучням усё зразумелай, матчынай гутаркай. Але афіцыйна гэта забаронена; змяніць жа парадак у школах не ў нашых сілах. Затое мы б маглі адкрыць доступ роднай гутарцы ў другім месцы, не менш важным за школу: у царкве і касцёле.

**«НН». №45. 1911.**

**Аргумент урада супраць валютнай інтэграцыі з Расіяй.** Урад Навіцкага абвясціў, што мае забяспечыць вольны абмен валютаў і гарантаваць усе разлікі ў беларускіх рублях. Іншымі словамі, зрабіць беларускі рубель па-сапраўднаму свабодна канвертаванай валютай.

**«НН». №46.2001**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7600. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 15.11.2011.
Замова № 5469.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12